*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 16 (280) 17 красавіка 1996 г. Кошт — 1000 рублёў

НІЛ ГІЛЕВІЧ: ЁСЦЬ БОЖЫ СУД Стар. 3.

БЕЛАРУСКІ СТУДЭНЦКІ САЮЗ Стар. 4.

РЭЛІГІЙНАЯ ХРОНІКА Стар. 5.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **СВАЮ ПАЕЗДКУ ПА ЧАРНОБЫЛЬСКІХ РЭГІЁНАХ** на чале міжпарламенцкай групы дзяржаў-удзельніц СНД Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі выкарыстаў для неафіцыйнай сустрэчы з прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмам, якая адбылася ў Кіеве.

❍ ***УВІЛЬНІ СТВОРАНА МАЛАДЗЁЖНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ*** *— Згуртаванне беларускай моладзі Віленшчыны (ЗБМВ). Галоўная мэта згуртавання — пазнаёміць беларускую моладзь з нацыянальнай гісторыяй і культурай, абудзіць нацыянальную годнасць.*

❍ **18 КРАСАВІКА АДНАЎЛЯЕ СВАЮ ПРАЦУ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА.** Адным з першых будзе разгледжана кадравае пытанне, а таксама змяненні і дапаўненні ў Закон аб друку і іншых СМІ.

❍ ***МІНІСТЭРСТВАМ ЮСТЫЦЫІ ЗАРЭГІСТРАВАНА РЭСПУБЛІКАНСКАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ПАРЛАМЕНЦКІ КЛУБ».*** *У яго ўвайшло каля 30 дэпутатаў. Узначальвае арганізацыю старшыня пастаяннай парламенцкай Камісіі па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы Анатоль Красуцкі, які лічыць, што асноўнай мэтай «Парламенцкага клуба» з'яўляецца тлумачэнне выбаршчыкам «безальтэрнатыўнасці народаўладдзя ў краіне».*

❍ **У ДРУКУ БЫЛА ІНФАРМАЦЫЯ АБ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ СКЛАДЗЕ УЗБРОЕНЫХ СІЛ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.** Да рэфармавання Узброеных Сіл беларусаў было 18,7%, расійцаў — 60,3%, украінцаў — 15,3%, палякаў — 0,6%. Па стану на 1 студзеня 1996 года беларусаў было 48,3%, расійцаў — 37,6%, украінцаў — 10,7%, палякаў — 1,2%.

❍ ***ПАСТАНОВАЙ КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ АНАТОЛЬ БУТЭВІЧ,*** *які да нядаўняга часу працаваў міністрам культуры і друку, назначаны Генеральным консулам Рэспублікі Беларусь у польскім горадзе Гданьску. Дарэчы, Анатоль Бутэвіч цудоўна валодае не толькі беларускай мовай, але і польскай.*

# Новая праграма

Нацыянальная школа перажывае не найлепшыя свае часы — гэта вядома. Але разам з тым Міністэрства адукацыі стварае вобраз беларускамоўнага школьніцтва, хай не квітнеючага, але ўжо ніяк не ўцісканага. Але ці адпавядае гэты вобраз рэчаіснасці?

Адказ на гэтае пытанне павінна даць новая праграма, распрацаваная Таварыствам беларускай мовы супольна з Таварыствам беларускай школы. Змест яе — стварэнне сеткі грамадскіх куратараў школ пры першасных суполках ТБМ, абавязкам якіх будзе збор інфармацыі пра рэальны стан рэчаў у сістэме сярэдняй адукацыі.

Першым месцам рэалізацыі праграмы стане Менск, а ажыццяўленнем яе павінны заняцца раённыя Рады, на абшары дзеяння кожнай з якіх знаходзіцца ад 15 да 40 школ. Абавязкам Радаў будзе адшуканне людзей, гатовых дапамагаць Таварыству, сярод супрацоўнікаў школ і бацькоў школьнікаў — тых, якія самі зацікаўленыя навучаннем сваіх дзяцей па-беларуску.

Поўны ці частковы перавод адукацыі ў расійскую мову — з'ява сёння амаль паўсюдная, і адзіны спосаб ёй супрацьстаяць — арганізацыя нязгодных з гэтым працэсам людзей. Менавіта гэтаму мусіць паспрыяць ТБМ і створаны інстытут грамадскага (у першую чаргу бацькоўскага) куратарства, звязаны і з ТБМ, і з ТБШ. У выпадку, калі першасныя суполкі гэтых арганізацый не будуць у стане самі паўплываць на рашэнні дырэкцыі школ, праблемай будуць займацца кіраўнічыя органы абодвух таварыстваў, дзеючы ўсімі даступнымі ім сродкамі.

У выпадку, калі рэалізацыя супольнай праграмы дасць плён і дазволіць грамадскасці кантраляваць стан школьніцтва, плануецца пашырэнне яе на ўсю тэрыторыю краіны. Гэтаму павінны спрыяць суполкі ТБМ і ТБШ. Неабходнасць падобных захадаў не выклікае сумніву: ужо першыя звесткі, сабраныя ТБМ, істотна розняцца з інфармацыяй, падаванай дзяржаўнымі структурамі.

Як частка рэалізацыі праграмы падтрымкі беларускага школьніцтва, 4 красавіка ў цэнтральнай сядзібе ТБМ адбылася сустрэча кіраўнікоў Таварыства беларускай мовы і Таварыства беларускай школы. Мэтаю спаткання было вызначэнне спосабаў рэалізацыі супольнай праграмы падтрымкі беларускага школьніцтва, распрацаванай ТБМ і ТБШ.

Адным з прыярытэтных кірункаў дзейнасці было названа далучэнне да праграмы выкладчыкаў школ і бацькоў вучняў, якія не з'яўляюцца сябрамі арганізацый, але гатовыя падтрымаць іх захады. Другой, не менш важнай справай палічылі распаўсюджванне інфармацыі пра гэтую сферу дзейнасці абедзвюх нацыянальных арганізацый у сродках масавай інфармацыі (у першую чаргу ў рэгіянальных), што дазволіць надаць ёй падтрымку грамадскасці.

**У.П.**

*У газетах*

## Знаёмцеся: беларуская праваабарончая газета «Круг»

***Як кажуць, лепш адзін раз убачыць... Падаём вытрымкі з першага нумара штомесячніка «Круг», які 4 красавіка 1996 года ўбачыў свет.***

***Яго выдае Беларускі ПЭН-цэнтр і Беларускі Хельсінкскі Камітэт. Галоўны рэдактар — лаўрэат прэміі Алеся Адамовіча, пісьменнік-публіцыст Анатоль Казловіч. У рэдкалегіі — Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Арлоў, Карлас Шэрман, Лявон Баршчэўскі, Таццяна Працька, Наталля Доўнар. Некаторыя з іх і сталі аўтарамі «Круга», першы выпуск якога выйшаў на 24-х старонках.***

***Выданне — «лімаўскага фармату»; 5 тысяч паасобнікаў; змяшчае тэксты па-беларуску, хаця ёсць і матэрыялы, напісаныя на расійскай мове.***

***«Круг» абараняе адначасова правы чалавека і правы нацыі.***

***Дык роўнай табе дарогі, «Круг»! Але не бойся ямінаў, камянёў ды іншых перашкод на сваім шляху!***

*(Заканчэнне на с.2)*

*Ліст у рэдакцыю*

# Імперцам мроіцца беларускае сала

У савецкія часы людзі з Расіі ахвотна перасяляліся ў Беларусь, бо тут ціхмяны народ і смачнае сала. Тое міжволі прыпомнілася пры чытанні газеты «Знамя юности» ад 26 сакавіка г.г. У нашай сям'і гэта выданне не выпісваюць, а нумар паказалі знаёмыя, непрыемна ўражаныя непрыхавана антыбеларускім зместам газеты, якая ўтрымліваецца за грошы беларускіх падаткаплацельшчыкаў. Тое, што надрукавана



пад назвай «По пути на площадь Парижской Коммуны так и хочется взять Бастилию» за подпісам Уладзіміра Зуева. У самым пачатку аўтар артыкула на тысячы людзей, якія актыўна падтрымлівалі мітынг 24 сакавіка, навесіў ярлык хворых псіхічна: выйшлі, бач, на вуліцу пратэставаць! Непавагай і нянавісцю да ўсяго беларускага працята кожная фраза гэтага твора.

Сп. Гукоўскі, хочам мы спытаць у галоўнага рэдактара газеты «Знамя юности», як Вы думаеце, калі нявыхаваныя дзеці кпяць з блізарукіх і г.д. сваіх аднагодкаў, што з імі трэба рабіць? Напэўна, вучыць, каб сталі нармальнымі, добрымі людзьмі. Калі ж дарослы Зуеў гэта дазваляе ў адносінах да свайго супляменніка прафесара Багданкевіча публічна, на старонках газеты, то гэта ўжо куды болей, чым хамства ад нявыхаванасці. Людзей, якія прыйшлі на мітынг, Зуеў называе «немаўлятамі», недарэчна спрабуючы каламбурыць, выхапіўшы з транспаранта словы «няма мовы...»

Але на фотаздымку, якім гэтая «творчасць» суправаджаецца, твары не ружовых немаўлят. Гэта аблічча ўсхваляваных людзей, якім сэрца баліць за лёс сваіх дзяцей, за забраныя «Пагоню» і старажытны бел-чырвона-белы сцяг, за занядбаную русіфікатарскай палітыкай нашу мову, за лёс

*(Заканчэнне на с.2)*

*Ліст у рэдакцыю*

# Імперцам мроіцца беларускае сала

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

беларускай краіны, суверэнітэт якой год за годам скасоўваецца вышэйшымі ўладамі.

Артыкул стракацідь выразамі ў здзеклівай форме: «поборники демократии», «западные меценаты», «предводитель Гражданской партии», «отечественные экс-неформалы»...

Але самы жахліва-пачварны ўчынак зрабіў Зуеў, калі абразіў старажытны нацыянальны сімвал беларусаў — бел-чырвона-белы сцяг, калі напісаў «люди с «исконнобелорусскими» полотнищами цветов «сало-мясо-сало». Бачна, што напісаў чалавек з пароды тых страўнікавых, аб якіх пісалі браты Стругацкія ў вядомым сваім творы. Гастранамічная плоць русіфікатара нават у нашых гістарычных святынях уніюхала-прымроіла кавалак беларускага сала. Напісаць такое — гэта ўжо перайсці ўсе межы прыстойнасці. Але стане яшчэ імперцам поперак горла беларускі «кавалак»!

**Ад сям'і Багінскіх — Ніна Рыгораўна, маці Паўліка і Алесі.**
г.Менск.

***Ад рэдактара.*** *Разумеючы, што надзвычай цяжка прабіцца да свядомасці чалавека, якому нават у колерах сцягу прымроіліся беларускае сала і мяса, усё ж будзем спадзявацца на лепшае. Бачна, пісаўся рэпартаж людзьмі, у якіх нянавісць да беларускай нацыянальнай годнасці змяшалася са страхам за ўласны дабрабыт, бо пакорлівыя «рабацягі», якіх яны задурвалі спачатку савецкім звышінтэрнацыяналізмам, а затым расійскай імперскай «саборнасцю», усё ж асмеліліся заявіць пра ўласныя чалавечыя каштоўнасці і патрэбы. Асмеліліся, калі адчулі, што могуць зноў надоўга апынуцца ў няволі, выйшлі на вуліцы і плошчы з нацыянальнымі сцягамі, шануючы сваю незалежнасць, сваю культуру і мову, хоць некаторыя з іх даўно адвучаны на ёй і размаўляць. А вось за тымі, хто ўсё ж гаворыць па-беларуску, асабліва заўзята чамусьці палявалі звышінтэрнацыяналісты з дубінкамі і атрутным газам. Выйшлі ў Дзень Волі, выйшлі і 2 красавіка, хоць ведалі, якая расправа іх чакае. Выйшла некалькі дзесяткаў тысяч у адным толькі Менску — рабочыя, прафесары, студэнты, служачыя, настаўнікі, школьнікі. А разам з усімі былі і самыя слынныя людзі Беларусі. Параўнайце іх з тымі, каго звезлі на дазволены ў самым зручным месцы праімперскі мітынг, які чамусьці не разганялі люта, а ахоўвалі спецвойскі. Угледзьцеся ўсё ж, «знамяюноши», у твары годных беларусаў на гэтых здымках і апамятайцеся.*

**Фотаздымкі Уладзіміра КАРМІЛКІНА.**



*У газетах*

## Знаёмцеся: беларуская праваабарончая газета «Круг»

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

### Васіль Быкаў аб чырвона-карычневых

«...Грамадства па сутнасці не мае эфектыўных процівагаў камуна-фашызму. Разбураецца эканоміка, бяднее народ, гіне культура, затое, бы на дражджах, растуць розныя ахоўна-паліцэйскія фармаванні, на якія выдаткоўваюцца велізарныя сродкі — бы ў якой-небудзь з лаціна-амерыканскіх дыктатур. У вайсковых і камуністычных калонах лунаюць чырвоныя сцягі, а гістарычная нацыянальная сімволіка забаронена...»

### Карлас Шэрман пра шкоду міфаў

«... Байкі пра дэмакратыю ледзь прыхоўвалі імкненне да рэстаўрацыі папярэдняй сістэмы. Нават дасведчаныя люд з'еў міф ад прагі перамен, не папярхнуўся хлуснёй, паверыў ды стварыў уласнае паданне насустрач інспіраванай, асабліва пра адчайную барацьбу з карупцыяй. Між тым, адраджэнне суверэннай нацыі без адраджэння суверэннай асобы і ўзнаўлення нармальнай гістарычнай памяці — справа пакутлівая, але пры спрыяльных умовах мажлівая, аднак адраджэнне без дэміфалагізацыі — немагчыма.

### Уладзімір Арлоў пра царазабойцу, беларуса Ігната Грынявіцкага

«Яго клікалі Ігнасем. Хлопчык вылучаўся такой дабрынёй і рахманасцю, што не мог пакрыўдзіць нават ката, любіў лашчыцца да маці, а калі аднагодкі прапаноўвалі пагуляць у вайну ці ў паляванне — адмаўляўся. Самай ваяўнічаю з яго забаваў была беганіна па лузе з сачком у руцэ, прычым злоўленага матылька чакала зусім не шпілька і месца ў калекцыі, а імгненнае вяртанне на волю. Прыхаджанкі мясцовага касцёла замілавана глядзелі, як на імшы малы Ігнаська, трохі картавячы літару «л», старанна вымаўляў малітвы.

За мяккі ласкавы характар гімназічныя сябры дадуць яму мянушку Коцік.

Праз дваццаць гадоў Коцік (так-так, мянушка захаваецца) са спакойнай рашучасцю наблізіцца на набярэжнай Кацярынінскага канала ў Пецярбургу да імператара Аляксандра II і, ведаючы, што і сам не мае ніякіх шанцаў уратавацца, ускіне над галавою рукі з бомбай...»

### Анатоль Казловіч нарэшце калектыўнага псіхозу нацыі

«...Пазналі беларусаў? Сабраўшыся гуртам, яны гатовы хутчэй сесці ў лужыну, чым асушыць яе.... Што яшчэ могуць зрабіць беларусы, калі іх болей, чым тры? Калі ім добра заплаціць, могуць асушыць усе балоты, лясы, лугі, гароды, калодзежы і засыпаць іх пяском... Калі ім нешта паабяцаць, могуць стварыць калгасы, пабудаваць сацыялізм, правесці рэферэндум. Калі ім сказаць праўду пра іх калектыўную дурноту, то абавязкова ўзненавідзяць таго праўдалюбца і назавуць яго фашыстам.

Чаму беларус у натоўпе (масавы беларус) робіць гэтулькі крыўды сам сабе і сваёй зямлі?

Вы спытаеце: а француз — не робіць тое самае? Ці немец, амерыканец, кітаец, калі яны збіваюцца да натоўпу?

Так, у статку ўсе дурнейшыя, чым кожны паасобку. Усе нацыі ва ўмовах калектыўнага псіхозу аднолькава бязлікія. Але ж французы сваім французскім натоўпам стварылі Рэспубліку! Амерыканцы калектыўным амерыканскім розумам дайшлі да Дэкларацыі аб Незалежнасці! Масавыя немцы пакаяліся за грахі сваіх продкаў, спарадзіўшых нацыянал-сацыялізм! А што аналагічнага, гістарычна параўнальнага, зрабілі беларусы?

Нарэшце вы ўспомнілі: беларусы ўсе як адзін падняліся ў 1941-м супраць тых немцаў, за якіх пакаяліся зараз іх дзеці і ўнукі. Хіба не прыклад беларускай згуртаванасці, у выніку чаго атрымалася не дурнота, а свабода!..

Беларусаў, якіх не яднае нацыянальная ідэя, сёння можна звязаць толькі адным трукам — зноў і зноў вяртаць да «гераічнай ваеннай старонкі», падтрымліваць у беларускім лесе партызанскі дух і вэрхал. Не адпускаць вайну ў гісторыю»...

**Падрыхтаваў Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

*Актуальна* *Актуальна*

# Пра салігорскую Рагнеду і пра лом, супраць якога няма прыёму…

Газета «Наша слова» (№ 3, 1996) паведамляла пра тое, як у кастрычніку мінулага года ў г.Салігорску адбыўся палітычны ўціск на кіраўніцу мясцовай філіі ТБМ імя Ф.Скарыны, настаўніцу беларускай мовы і літаратуры СШ № 11 Марыю Мацюкевіч. З яе начальства запатрабавала пісьмовае тлумачэнне за скарыстанне на адным з урокаў у якасці дапаможнай атрыбутыкі сімволікі бел-чырвона-белага сцяжка і выявы герба «Пагоня».

Канфлікт працягваецца і зараз. Разбіраючы гэтую сітуацыю, я ўвесь час думаў: а чаму яна, Марыя Сцяпанаўна Мацюкевіч, такая?

Няўжо нельга неяк іначай любіць роднае слова, літаратуру, беларускую гісторыю і ўсё тое, што мы разумеем пад беларушчынай? Каб неяк «цішэй», рахманей? Каб часам у спіну не чулася: «Фанатычка! Нацыяналістка!»?

Марыя Мацюкевіч адказвае: нельга іначай! Нельга, калі сапраўды хочаш адрадзіць і мову, і культуру, і гісторыю свайго народа. Звыкла высокапастаўленыя манкурты грэбліва адмахнуцца і ўсё. Ім напляваць на гістарычны лёс народа, на яго годнасць. Ім патрэбна «рабсіла» і лепш за ўсё маўкліва-пакорлівая.

— Калі ў нас у Салігорску утварылася ТБМ (гэта было ў 1990 годзе), — распавядае Марыя Мацюкевіч, — я спрабавала ў газеце «Шахцёр» выдаваць старонку «Роднае слова» — прапагандавала беларушчыну, найперш — мову. Тое ж самае рабіла і ў газеце «Салігорскі веснік», толькі там старонка мела найменне «Матчына мова». Але ж калі ўбачыла, што і там мае матэрыялы беспардонна праўляць, каб выглядалі ціха-мірна-папрашайніцкімі, я вырашыла: трэба выдаваць сваю газету.

**— А чаму ёй далі назву «Рагнеда»?**

— Справа ў тым, што, далучыўшыся да беларускай гісторыі ды сустракаючыся з мясцовым паэтам, былым вязнем сталінскіх ГУЛАГаў Лявонам Случаніным (цяпер, на жаль, нябожчыкам), я пазнаёмілася з яго паэмай «Рагнеда». Адсюль — назва газеты. І эпіграф з паэмы — каля лагатыпа: «Памятай, беларус, што і ты чалавек, які можа сабой гаспадарыць!» Для мяне гістарычны вобраз Рагнеды — гэта ўвасабленне пратэсту супраць несправядлівасці, якая творыцца ўладарамі і супраць чалавека, і супраць Айчыны (успомніце, што князь Уладзімір Князства Полацкае паваяваў, бацьку Рагнеды забіў, а яе самую забраў у жонкі сілаю).

Так, у характары Марыі Мацюкевіч шмат адхарактару старажытнай княжны. Асабліва ў сэнсе пратэсту, рашучай барацьбы супраць гвалту, ілжы, уціску і тупасці чыноўніцкай.

Ды і сапраўды: ну навошта было тады, у кастрычніку 1995 года, пасля таго, як Марыя Сцяпанаўна сваім урокам у 7-«Б» класе адкрыла Свята беларускага пісьменства чыноўнікам уздымаць скандал?

Так, Марыя Сцяпанаўна, сапраўды, разбіраючы верш Янкі Купалы «Прарок», напісаны ў 1905 годзе, скарыстала выявы гістарычнай беларускай «сімволікі, пра якую згадвае паэт». А які ж тады, у 1905 годзе, быў у беларусаў сцяг? Зразумела — не чырвона-зялёны, які па загаду Сталіна прыдумалі не вельмі дасведчаныя ў беларускай гісторыі мастакі. «Пагоня» мелася за герб у добрага дзесятка беларускіх гарадоў.... Уласна, Інстытут гісторыі АНБ тое абгрунтаваў і даказаў даўно.

Скандал вакол гэтага нельга было ўздымаць яшчэ і з той прычыны, што Вярхоўны Савет не зацвердзіў «новую» сімволіку і не адмяніў — гістарычную. Ды і калі б адмяніў яе як былую дзяржаўную, то што з таго: няўжо дзеці не павінны ведаць, пад якімі сцягамі і гербамі, напрыклад, беларускія воі перамаглі пад Грунвальдам захопнікаў з Захаду, а крыху раней на Куліковым полі дапамагалі перамагаць маскоўскаму князю Дзмітрыю Данскому хана Мамая? Ганарыцца б такою сімволікай.

Для Марыі Мацюкевіч гэтыя сцяг і герб — неаспрэчныя нацыянальныя святыні. Як і мова родная, і вершы Купалы і Случаніна, і сапраўдная гісторыя краіны. Яны, нашыя святыні, паводле меркавання Марыі Сцяпанаўны, знаходзяцца па-за межамі палітычнай кан'юнктуры. А дзяцей як перавучваць на новую сімволіку, зневажаючы гістарычныя святыні нацыі? Чыноўнікі не сустракаюцца штодня з позіркамі школьнікаў, а шкада.

Марыя Сцяпанаўна паказала нумар газеты, на старонках якога былі змешчаны вершы вучняў 7-х класаў СШ № 11.

Простыя радочкі, напісаныя дзецьмі, але якая ў іх шчырасць, якая гордасць за сваю радзіму і яе сапраўдную гісторыю.

Жэня Змачынскі:
«...Нам не патрэбны іншыя гербы —
Застанецца «Пагоня» для нас назаўсёды!
Маю надзею, што прыйдзе час
І вернецца мова зноўку да нас...»
Вольга Цуба:
«...Ды і мова наша родная
Пахвалы, пашаны годная...
Я люблю яе, шаную,
Як люблю сваю матулю...»
Вольга Шклярэвіч:
«...Наша мова не знікне,
Яна вернецца к нам...»
Андрэй Кардаш:
«...Родная мова — як сонечны дзень,
Як з чыстага срэбра крыніца...»
Іра Жук:
«...Хіба можа чалавек
Без сваёй жыць мовы?
Без гісторыі сваёй?..»

У нармальнай краіне, нармальным грамадстве такое вось пачуццё толькі заахвочваюць. Але ў беларускім горадзе Салігорску, як і па ўсёй Беларусі пасля сумна знакамітага рэферэндуму, усё перастаўлена з ног на галаву, як у казачным Залюстраллі.

Пасля распараджэння аднаго з функцыянераў прэзідэнцкай Адміністрацыі, каб паўсюдна, у тым ліку ў школах, вывесіць «новыя» сцяг і герб, узяліся зноў за Марыю Мацюкевіч. Бо яна асмелілася не размяшчаць на сцяне свайго кабінета беларускай мовы і літаратуры герб «з каласкамі». Калі ж яго, залачоны, зроблены з гіпсу, усё ж сілком прымацавалі па-над класнай дошкай, нехта з вучняў таемна новыя выявы зняў, а на тое месца прыклеіў намаляваную на паперы «Пагоню». Абвінавацілі настаўніцу, запатрабавалі пісаць «тлумачальную». А «ўвыкананне рашэння» над класнай дошкай у кабінеце беларускай мовы і літаратуры павесілі «новую» сімволіку, на гэты раз «папяровую».

Калі я завітаў да дырэктара СШ № 11 г.Салігорска Уладзіміра Каштальяна, той мне афіцыйна, на дыктафонную плёнку, сказаў:

— Ёсць Указ Прэзідэнта, і я, кіраўнік дзяржаўнай школы, буду выконваць яго. Усё! Новая сімволіка, сказана, каб была, і я павінен прасачыць, каб яна ва ўсіх кабінетах была! Новага ўзору, а не старога! Пакуль я тут дырэктар!..

Дырэктар не хоча заўважаць, што ў яго школе ідзе «ціхая» грамадзянская вайна. Адчуваецца напружанне і ўвогуле ў горадзе беларускіх шахцёраў. Начальства спадзяецца на загады, застрашванне грубай сілай. Але дзеці растуць.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

# Ёсць Божы суд і справядлівасць!

***Слова на адкрыцці нацыянальнай навуковай канферэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты»***

Даўным-даўно, можа і каля тысячы гадоў назад, па мудрай волі Усявышняга, на ладным кавалку еўрапейскай тэрыторыі, на аснове блізкародных племянных аб'яднанняў крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў, пачала складацца і фарміравацца як адно этнічнае цэлае беларуская народнасць. Беларускай, вядома, яна будзе названа значна пазней, але гэта акалічнасць ні ў якой меры не адмяняе самога гістарычнага факта.

Аднячасова фарміравалася як адзінае цэлае і аснова беларускай мовы: складваліся і замацоўваліся тыя яе якасці, якія ўрэшце сталі вызначальнымі і канчаткова адасобілі нашу мову ад расійскай і украінскай. Паўтараю, працэс гэты адбываўся па волі Божай, у пэўных гістарычных умовах, арганічна і натуральна, як і пры этнічна-нацыянальным станаўленні любога іншага народа. Вядома, якім драматычным, а дакладней, — трагічным аказаўся ў далейшым лёс і нашай дзяржавы, і нашага народа, і нашай мовы. Мовы, якая прынамсі тры стагоддзі была дзяржаўнай і літаратурнай — зразумела, у сваіх старабеларускіх лексічных і граматычных формах. Дастаткова прыгадаць кнігі Скарыны, Буднага, Цяпінскага, тры выданні «Статута ВКЛ» і многія іншыя помнікі беларускага пісьменства XV—XVII стагоддзяў.

На бяду-няшчасце наша, вымушаная унія Вялікага Княства з каралеўствам Польскім прывяла паступова нашу суверэнную дзяржаву да поўнага заняпаду, да ліквідацыі яе суверэннасці, да гвалтоўнай паланізацыі насельніцтва Вялікага Княства, а ўрэшце — да амаль поўнага выцяснення беларускай мовы з афіцыйнага і літаратурнага ўжытку. Гэтым тлумачыцца тое, чаму, у параўнанні з большасцю паднявольных славянскіх краін, нацыянальнае адраджэнне Беларусі пачалося вельмі няўпэўнена і амаль на цэлае стагоддзе пазней. Аднак жа яно пачалося, і асновай адраджэння стала існаванне жывой беларускай мовы. Імення гэтая акалічнасць, што яна не знікла, што ў вуснах мільёнаў простых людзей беларуская мова жыла, і жыла ў дасканала развітых формах, — падказала прадстаўнікам мясцовай інтэлігенцыі, адукаванай ліцвінскай шляхты на магчымасць выкарыстання гэтае мовы ў якасці літаратурнай. Хацелася б падкрэсліць, што к таму часу (канец XVIII ст.), калі тэрыторыя Вялікага Княства ўжо была далучана да Расійскай імперыі, жывая беларуская мова існавала ў тых жа граматычна і эўфанічна завершаных формах, у якіх яна існуе і сёння. Вось радкі вясельных песень, запісаных на Лагойшчыне амаль 200 гадоў назад — у 1800—1802 гг.

*Да прапою, прапою*
*Да Тацянкін татулька,*
*Да прапіў сваё дзіця*
*Да на новым ганачку,*
*Да за мёду шкляначку,*
*За гарэлкі чарачку.*
*Добра ж было прапіваці —*
*А кім будзеш пасылаці*
*У крыніцу па вадзіцу,*
*У шэры бор па брусніцу.*
Або:
*Звінела камора, звінела,*
*Дзе наша Тацянка сядзела,*
*Тонкія абрусы заткала,*
*Мыслямі ўзоры паклала.*

Калі такая чыстая і цудоўная была наша жывая мова ў канцы XVIII стагоддзя, то можна не сумнявацца, што гэтак жа чыста і цудоўна яна гучала і на 100, і на 200 гадоў раней, г.зн. і ў канцы XVII, і ў канцы XVI стст., а можа і яшчэ раней, бо істотныя змены ў мове, у яе лексіцы, марфалогіі, сінтаксісе, а тым больш у фанетыцы, хутка не адбываюцца. На гэта хацелася б звярнуць увагу тых гора-навукоўцаў, якія сцвярджаюць, што ніякай спрадвечнай беларускай мовы не было і няма, што яе штучна пачалі ствараць у XIX ст. тагачасныя «беларускія нацыяналісты», і асабліва «нацыяналісты» пачатку XX ст. — такія, як Я.Купала, Я.Колас, Цётка, А.Гарун, М.Багдановіч, М.Гарэцкі і дзесяткі іншых, менш вядомых. На працягу усяго XIX ст. беларускай мове ходу за парог вясковай хаты не давалі — асобныя прарывы ў кніжнае пісьменства (Я.Чачот, В.Дунін-Марцінкевіч, Фр.Багушэвіч, Я.Лучына і інш.) толькі падкрэслівалі поўную і глухую дыскрымінацыю правоў 10-мільённага народа на карыстанне сваёю мовай, на стварэнне сваёй ўласнай прафесійнай культуры. XX ст. тройчы давала нашай мове аддушыну — у самым пачатку веку, у 20-я гады і нарэшце зусім нядаўна — у першай палавіне 90-х . Але ў цэлым і XX ст. — гэта працяг усё той жа асіміляцыі, усё той жа нялюдскай палітыкі паступовага задушэння беларускай мовы, звядзення яе месца і ролі ў жыцці грамадства на нішто. У суме ж выходзіць, што ўжо колькі сот гадоў нашу родную мову і душаць, і душаць, і душаць, і напэўна самі дзівяцца, што ніяк не задушаць, і ўсё не могуць зразумець простай ісціны: ну, калі за некалькі стагоддзяў задушыць не змаглі — значыць, яе ўвогуле задушыць нельга, значыць, яна — вечна жывая, несмяротная, і таму — спыніцеся, панове!

На вялікі жаль, панове не спыняюцца. Наадварот, у самы апошні час павялі нечуваны наступ і на правы мовы, дзяржаўны статус якое ніхто не адмяняў, і на пазіцыю тых, хто не бароніць, хто адваёўвае для яе права жыць, развівацца і служыць людзям, служыць гуманізму і культуры. Проста як нейкае ачмурэнне найшло на імпершавіністаў, усякую элементарную чалавечую логіку пераварочваюць дагары нагамі, ставяць з ног на галаву. Гаворыш ім: «Беларускую мову трэба ратаваць, трэба ёй дапамагчы выжыць, вы ж бачыце, у якім яна становішчы!» — а яны ў адказ: «Не бярыце за горла са сваёй беларушчынай і дайце рускай мове аднолькавы статус з беларускай!» Гаворыш ім: «Мы любім і шануем родную мову і хочам гэтыя пачуцці прышчапіць дзецям, каб яны не выраслі дзікунамі» — а нам у адказ: «Вы ненавідзіце рускую мову, адрываеце моладзь ад рускай культуры і распальваеце русафобію!» Трое няўдзячных, якія, відочна, прыехалі сюды, кажучы словамі паэта «на ловлю счастья и чинов», займаюць увесь тэлеэкран і абзываюць лепшых людзей беларускай нацыянальнай культуры антыпатрыётамі, ды яшчэ і пагражаюць, што «этим националистам не место на нашей белорусской земле». Здорава, ці не праўда? Тыя, хто не можа звязаць на мове гэтай зямлі нават трох слоў — патрыёты, а тыя, каму родная мова бясконца любая і каму неймаверна баліць за яе лёс, — тыя, аказваецца, антыпатрыёты. Сапраўды, ачмурэнне нейкае!

Праявы і факты дыскрымінацыі беларускай мовы ў Беларусі на сучасным этапе выступаюць — хачу гэта падкрэсліць — у асабліва здзеклівых формах. З нашае мовы сёння здзекваюцца ўсе і ўсюды — на ўсіх узроўнях: ад Прэзідэнта на тэлеэкране да апошняга п'янага бомжа на вуліцы ці ў грамадскім транспарце. З мовы — і з тых, хто выступае ў яе абарону. І заступніцтва з боку дзяржавы — аніякага. І гэта зразумела: хто ж заступіцца, калі прыклад ігнаравання і здзеку падаецца з самага верху?

А было ж ужо, было — на самым пачатку 90-х намецілася радаснае ажыўленне адраджэнскіх настрояў у гушчах народа, людзі пачалі ўсведамляць неабходнасць перамен у стаўленні да беларускай мовы, і наданне ёй статуса адзінай дзяржаўнай па Закону аб мовах успрынялі ў цэлым спакойна, з разуменнем. Гэтак жа, як і замацаванне яе дзяржаўнага статуса ў Канстытуцыі Беларусі. І былі дасягнуты першыя поспехі ў пашырэнні беларускай мовы ў грамадскім ужытку. І ішоў бы гэты працэс далей — спакойна і без эксцэсаў, як натуральны і зразумелы ўсім, хто не ворагсваёй Бацькаўшчыне. Ішоў бы — калі б не хітра-подлая задума з рэферэндумам. Арганізаваны на сацыяльна-палітычнай дэмагогіі рэферэндум узарваў і разваліў працэс нацыянальнага адраджэння Беларусі. Пад націскам апантанай ідэалагічнай апрацоўкі многіх людзей, у тым ліку маладых, ахапілі сумненні, многія пахіснуліся. Асабліва адчувальныя ўдары па беларускай мове пачалі наносіць у сферы адукацыі. У цэлым жа можна сказаць, што рэферэндум паклаў пачатак курсу на небывалую палітычную канфрантацыю ў грамадстве, што мы і бачым сёння. Цынізм кіраўніцтва дзяржавы ў тым, што вінаватымі ў канфрантацыі аб'яўляюцца зусім невінаватыя, што з хворай галавы ўсё перакладваецца на здаровую.

У такім становішчы натуральна ўзнікла пытанне: як быць і што рабіць? На аргкамітэце канферэнцыі гаварылася: нам нічога не застаецца, апрача як звярнуцца да сусветнай грамадскасці з просьбай, каб яна аказала нам маральную падтрымку ў змаганні за правы нашай роднай беларускай мовы на нашай роднай беларускай зямлі. Маўляў, грамадскасць свету не можа даваць рэкамендацыі наконт моўнай палітыкі ў нашай суверэннай дзяржаве, але можа даць маральную ацэнку самому факту дыскрымінацыі беларускай мовы ў Беларусі. Можа выказаць абурэнне гэтай нялюдскай, ганебнай моўнай палітыкай, якая праводзіцца асімілятарамі і іх прыслужнікамі ў Беларусі. Зрабіць гэта трэба для таго, каб у кожнай краіне свету дзяржаўныя і палітычныя лідэры ведалі, з якімі людзьмі ім даводзіцца мець справу, калі яны сустракаюцца з дзяржаўнымі кіраўнікамі Беларусі. Аднак самае страшнае тое, што нашым дзяржаўным мужам ніякі маральны суд не страшны, іх нічым не спалохаеш. Яны валодаюць, выбачайце, надзвычайным маральным «бясстрашшам». Колькі было ўжо выпадкаў, калі тут, у Менску, на пэўнай урачыстасці, прадстаўнік замежнага пасольства гаворыць на беларускай (хай сабе і з цяжкасцю), а прадстаўнік нашага ўрада ці міністэрства — на мове суседняй дзяржавы. І нічога! А ні сораму, а ні канфузу. Маральнае «бясстрашша»! У псіхалогіі гэту з'яву яшчэ называюць цынізмам, у народзе — проста дзікунствам. Хоць і вельмі непрыемна гэта гаварыць, але так яно і ёсць: дзяржаўная палітыка, скіраваная на вынішчэнне мовы, а г.зн. і духоўнай культуры свайго народа, — гэта дзікунства. Толькі дзікун і манкурты не здольныя думаць і клапаціцца пра духоўнае аблічча нацыі, да якое яны самі належаць, пра заўтрашні дзень нацыі, якога ў яе проста не будзе, калі народ пазбавіць яго ўласнай мовы, калі ў душы народа знішчыць жывыя карані і карэньчыкі сваёй уласнай, прыродна-самабытнай духоўнай творчасці.

І рэч не толькі ў тым, што гэтыя нашы дзяржаўныя дзеячы, распарадчыкі жыцця і лёсу народа, не ведаюць і таму не карыстаюцца мовай народа; многія з іх якраз ведаюць, і нават няблага ведаюць мову роднай зямлі, некалі гаварылі ёю і ў школах вучыліся на ёй. Рэч у тым, што гэтыя дзяржаўныя мужы, адміністратары і палітыкі, свядома і наўмысна грэбуюць беларускай мовай, свядома ігнаруюць патрабаванні прынятых у свеце, на міжнародным узроўні, законаў, патрабаванні агульналюдскай маралі і культуры; рэч у тым, што яны свядома праводзяць антыбеларускую нацыянальную палітыку, што ідэю нацыянальнага беларускага Адраджэння яны адвяргаюць у прынцыпе, што свой уласны дзяржаўны дом, пабудаваны і абстаўлены на беларускі лад, ім наогул непатрэбны: ім дастаткова і таго, што яны будуць жыць у прыбудаваным флігелі ці дзе-небудзь у прызначанай для чэлядзі бакавушцы.

Але беларускі народ не можа на сваёй зямлі жыць у нейкай прыбудове ці бакавушцы, ён павінен быць гаспадаром у сваім доме, для чаго сам дом павінен быць беларускім; не можа ж ён гаспадарыць у доме чужым, у доме, дзе беларускага ўжо амаль нічога няма. Значыць, задача задач для ўсіх нас і для ўсяго беларускага народа — дабіцца таго, каб Беларусь як краіна і дзяржава стала ў поўным сэнсе слова Беларуссю, каб наш беларускі дом быў іменна беларускім домам. Само сабой зразумела, што такім ён можа стаць толькі тады, калі ў ім будзе панаваць беларускі дух, беларуская памяць і беларуская культура, а найперш — беларуская мова: самабытная і цудоўная ў сям'і славянскіх моў беларуская мова! Тыя, каго Янка Купала назваў «ворагамі беларушчыны», гэта выдатна разумеюць: разумеюць, што калі ў Беларусі ў грамадскім і бытавым ужытку будзе пашырацца беларуская мова, то будзе пашырацца і паглыбляцца і гістарычна-нацыянальная самасвядомасць народа, будзе расці колькасць нацыянальна свядомых беларусаў, якія канешне ж зробяць свой дзяржаўны дом беларускім і незалежным. Не дапусціць да гэтага ёсць усваю чаргу задачай задач і галоўнай мэтай асімілятараў Беларусі. Любой цаной не дапусціць, каб беларускі дзяржаўны дом стаў незалежным! Чаму? Таму што суверэнная і незалежная Беларусь можа стаць ім перашкодай у ажыццяўленні вялікай геапалітыкі. І ў гэтым — уся справа. І ўся наша бяда. Гэта — галоўная прычына нашай глабальнай і нясканчонай нацыянальнай трагедыі.

Вядома, нацыянальныя інтарэсы нашай усходняй суседкі, як і ўсіх іншых суседзяў, маглі б быць задаволенымі і пры існаванні суверэннай і незалежнай Рэспублікі Беларусі. Безумоўна, маглі б! Але для гэтага трэба, каб сёе-тое архаічнае, архіістотнае адбылося ў галовах, у розумах, у менталітэце тых, хто фарміруе, прапагандуе і насаджвае праімперскую ідэалогію. Ці можам мы разлічваць, што такія перамены ў галовах імпершавіністаў у блізкім часе і самі па сабе адбудуцца. Думаю, што разлічваць на гэта было б недаравальнай наўнасцю. Самі па сабе ды яшчэ ў блізкім часе яны не адбудуцца. На прыбліжэнне гэтых перамен трэба напорна і актыўна працаваць. Іншага нічога не застаецца. Ну, а сам час, само жыццё будзе спрыяць гэтаму. Павінна спрыяць! Ёсць жа нейкая найвышэйшая мудрасць у асновах самога светаўладкавання — мудрасць, якая заўсёды давала людзям надзею і веру ў перамогу справядлівасці.

**Калектыўныя сябры аргкамітэта: Аб'яднаная грамадзянская партыя, Аб'яднанне яўрэйскіх арганізацый і абшчын, Арганізацыя «Выбранецкія шыхты», Асацыяцыя маладых палітычных дзеячаў, Асацыяцыя садзейнічання ААН Беларусі, Асацыяцыя ўкраінцаў Беларусі «Ватра», Беларускае аб'яднанне «Ветэран», Беларуска-Еўрапейскі культурны цэнтр, Беларускае згуртаванне татараў-мусульман «Аль-Кітаб», Беларускае педагагічнае таварыства, Беларускае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, Беларуская асацыяцыя ахвяраў палітычных рэпрэсій, Беларуская каталіцкая Грамада, Беларуская нацыянальная партыя, Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Беларуская сялянская партыя, Беларускі дзіцячы фонд, Беларускі народны фронт «Адраджэньне», Беларускі ПЭН-цэнтр, Беларускі рэспубліканскі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ, Беларускі саюз фалькларыстаў, Беларускі фонд дапамогі развіццю культуры, Беларускі фонд культуры, Гарадскі бацькоўскі камітэт беларускамоўных класаў г.Менска, Дзіцячы фонд «Сакавік», Жаночы хрысціянска-дэмакратычны рух Беларусі, Задзіночанне беларускіх студэнтаў, Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», Камітэт абароны беларускай мовы, Клуб «Спадчына», Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Міжнародны жаночы фонд імя Ефрасінні Полацкай, Навукова-аналітычны цэнтр «Беларуская перспектыва», Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі, Нацыянальны цэнтр стратэгічных ініцыятыў «Усход-Захад», Незалежнае аб'яднанне журналістаў, Партыя народнай згоды, Патрыятычны рух БЗВ, Польскае культурна-асветнае таварыства «Палонія», Рэспубліканская творчая суполка прафесійных мастакоў «Пагоня», Саюз архітэктараў Беларусі, Саюз кампазітараў, Саюз кінематаграфістаў, Саюз палякаў Беларусі, Саюз пісьменнікаў, Свабодны прафсаюз Беларусі, Таварыства беларускай мовы, Фонд «Дзеці Чарнобыля», Фонд развіцця традыцыйнай этнічнай культуры, Фонд сацыяльных ініцыятыў і даследаванняў імя братоў Луцкевічаў, Хельсінкскі камітэт, Хрысціянска-дэмакратычная партыя.**

«Наша слова» не раз распавядала пра дзейнасць беларускіх гімназій на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якія шмат зрабілі для патрыятычнага выхавання моладзі і яе падрыхтоўкі да культурна-асветнай працы ў вёсцы. Сённяшняя наша гаворка — пра Беларускі студэнцкі саюз пры Віленскім універсітэце, які дзейнічаў на працягу 18 з лішкам гадоў, а менавіта з 1920 г. і да часу далучэння ў верасні 1939 г. Заходняй Беларусі да савецкай супердзяржавы. Апошні юбілей сваёй дзейнасці саюз адзначаў у снежні 1938 г. Як сведчаць тагачасныя публікацыі ў «Беларускім летапісу», усе гады ён упарта змагаўся за душу беларускага студэнта з тымі сіламі, якія імкнуліся нашых хлопцаў і дзяўчат здэнацыяналізаваць і адарваць ад родных каранёў. У аглядным артыкуле «Новы год пачынаючы» невядомы аўтар пісаў, што, нягледзячы на страшэнныя матэрыяльныя варункі існавання, хранічную барацьбу з голадам і холадам, большасць сяброў арганізацыі вытрывала, не страціла ўсведамлення сваіх абавязкаў перад народам і Бацькаўшчынай, хоць, вядома, была і здрада і «дэзэрцыя»: слабейшыя ламаліся духоўна і адыходзілі «за лыжку смачнейшай поліўкі ды за катлеты». Свае задачы саюз бачыў у тым, каб праводзіць грамадскую працу на карысць народа і працу навуковую. Першая задача стыкоўвалася з дзейнасцю ТБШ: сумесна ладзіць вечарыны ў гарадах і на перыферыі са спектаклямі, дэкламацыямі, выступленнямі народных хораў, скокамі ды гульнямі; сумесна арганізоўваць агульнаадукацыйныя курсы для насельніцтва, распрацоўваць методыку самаадукацыі, чытаць лекцыі на тэмы беларускай культуры і гісторыі. Многія сябры БСС уваходзілі аднačасна і ў ТБШ. Не кажучы ўжо, што славуты хор галоўнага дзеяча таварыства Рыгора Шырмы з'яўляўся менавіта хорам студэнцкага саюза і існаваў пры яго матэрыяльнай падтрымцы. Адзначу, што культурна-асветная праца саюза ўвесь час натыкалася на перашкоды з боку ўладаў. Так, прыкладам, у 1937 г. студэнты падалі больш за 30 просьбаў на дазвол чытаць навукова-папулярныя лекцыі ў беларускіх паветах і на ўсе гэтыя просьбы атрымалі адмоўныя адказы. Кіраўнікі БСС аднак разумелі, што грамадская праца — гэта толькі адна галіна іх дзейнасці, паколькі «поле беларускай навукі ляжыць дзірваном». Папярэднія пакаленні беларускай інтэлігенцыі, асабліва «нашаніўцы», сцвярджалася ў памянёнай вышэй публікацыі, стварылі «аргумент для сэрца» — а менавіта багатую мастацкую літаратуру. Галоўная ж задача сучаснага пакалення ў культурнай галіне — гэта стварэнне «аргументаў для розуму», а менавіта стварэнне беларускай навукі, — праца, якую ніякі іншы слой насельніцтва не выканае, якая ляжыць толькі на плячах беларускага студэнцтва і павінна быць зроблена толькі ім. Мэты БСС у навуцы: «Апанаваць навуковыя метады, паглыбляць веды, чэрпаць шчодрай жменяй з багаццяў сусветнай навукі і культуры».

Арганізацыя падтрымлівала цесныя кантакты з украінскім і летувіскім студэнцкімі саюзамі, з беларускімі студэнтамі ў Варшаве, а таксама з другой студэнцкай суполкай Віленскага універсітэта — «Таварыствам прыяцеляў беларусаведы», што займалася выключна беларусістыкай. Інтэлектуальнае і духоўнае жыццё БСС было вельмі насычаным. Пару разоў на месяц абавязкова склікаліся дыскусійныя зборкі з чытаннем і абмеркаваннем дакладаў і рэфератаў, арганізоўваліся сяброўскія гарбаткі з «жывой газеткай» і танцамі, праводзіліся творчыя вечары з беларускімі пісьменнікамі і мастакамі. Вечарамі ў памяшканні БСС (вуліца Браніфратэрская, 2, а затым вул. Завальная, 1) праводзіліся кансультацыі з абітурыентамі і першакурснікамі. У саюзе налічвалася 60—70 асоб, а за ўсё існаванне цераз арганізацыю прайшло чалавек 300. Кіруючым органам з'яўляўся Урад саюза, які абіраўся агульным сходам сяброў і дзейнічаў на працягу года. Арганізацыя існавала на складкі сяброў, даходы ад імпрэз і на прыватныя ахвяраванні. Актыўныя дзеячы БСС: А.Дасюкевіч, М.Шчорс, А.Засім, М.Трафімавічанка, М.Канцэлярчык, В.Жукоўская, П.Першукевіч, У.Клім ды іншыя.



## Хроніка БСС

1937. Яшчэ вясной Віленскі ваявода не дазволіў «ze względów porządku publicznego» для сяброў БСС насіць свае арганізацыйныя шапкі і наагул якія колечы вонкавыя адзнакі. Падобную забарону атрымалі і студэнты ліцьвіны.

1938. З Міжнароднай студэнцкай арганізацыі (т.зв.CIE), на прапазыцыю і пад націскам польскага прадстаўніцтва і пры ціхой згодзе савецкага, было выключанае беларускае і ўкраінскае студэнцтва. Беларусом і ўкраінцам сказалі, што яны будуць магчы ўступіць у CIE ізноў тады, як будуць мець сваю дзяржаву...

27.XI.38 г. БСС арганізаваў вечар літоўскай літаратуры, на якім інфармацыйны рэфэрат прачытала літоўская паэтка О.Міцютэ. Пасьля рэфэрату чыталіся вершы літоўскіх паэтаў у перакладах на беларускую мову М.Танка, А.Бярозкі і інш.

10.XII.38 г. БСС арганізаваў вялікі канцэрт з удзелам выдатнага беларускага опэровага тэнара Міхала Забэйды-Суміцкага і беларускага студэнцкага Хору пад кіраўніцтвам ведамага дырыгента Рыгора Шырмы... Канцэрт, нягледзячы на вялікія труднасці з пазваленьнем, удаўся як найлепей. У вялікай унівэрсітэцкай салі Сьнядэцкіх сабралася больш поўтысячы народу. З асаблівым энтузіязмам, доўгімі бурнымі воплескамі, прыймала саля беларускія песьні ў выкананьні Забэйды Суміцкага.

**Падрыхтавала Ірына КРЭНЬ.**

**На здымку:** Урад БСС. Сядзяць злева направа: **У.Клім, В.Жукоўская, А.Дасюкевіч, Т.Трафімавічанка, М.Канцэлярчык.** Стаяць: **А.Засім, Г.Сухая, Я.Каліцкі.**

# НАЦДЭМЫ

Ці шмат у якіх краінах, што паўсталі на руінах СССР, нацыянальна-дэмакратычныя сілы маюць вялікі ўплыў? Зазвычай, перавагу атрымліваюць камуністы ды «новыя расійцы» альбо адпаведныя ім сацыяльныя групы, як гэта здарылася і ў Беларусі. Але ёсць і іншыя прыклады. Адзін з іх — нацыянал-дэмакратычны рух Грузіі.

Гэта — сапраўдная дысідэнцкая партыя, створаная людзьмі, якія ў савецкі час былі палітзняволенымі. Сваю дзейнасць яна пачала нелегальна яшчэ напачатку 80-х гадоў. Але гэта было не стварэннем, а аднаўленнем партыі, заснаванай у 1917г. Спірыдонам Кедыя. Пасля распаду Расійскай імперыі, у час нядоўгай незалежнасці Грузіі, партыя займала 2—3 месцы па ўплыве, але ўжо тады яна стварала супрацьвагу пануючай сацыял-дэмакратычнай ідэалогіі, насаджанай кіруючымі ў Грузіі меншавікамі. Духоўны падмурак і ідэалогія грузінскай нацыянал-дэмакратыі былі створаныя бацькам грузінскай незалежнасці — пісьменнікам і грамадскім дзеячам князем Іллём Чаўчавадзэ, які ў 1907 годзе быў забіты бальшавікамі.

У час міру ў Грузіі — да 1921 года — нацыянал-дэмакраты ў вялікай палітыцы знаходзіліся на другім плане. Але пасля таго, як уладу захапілі створаныя бальшавікамі Саветы, менавіта нацдэмы ўзначалілі паўстанне 1924 года. Пазней, у эміграцыі, яны сталі ідэолагамі вызвалення сваёй радзімы ад камунізму.

На пачатку 80-х гадоў грузінская нацыянал-дэмакратычная партыя была адноўлена маладым гісторыкам, дысідэнтам і былым палітзняволеным Георгіем Чантурыя. На пачатку яна дзейнічала нелегальна, узначаліўшы нацыянальна-вызвольны рух у краіне. Нацдэмы былі арганізатарамі мноства масавых акцыяў непадпарадкавання камуністычнаму рэжыму. Пазней дэмакратызм партыі зрабіў яе мішэнню атак звышнацыяналістаў, якіх узначальваў Звіяд Гамсахурдыя. У час, калі Гамсахурдыя быў прэзідэнтам краіны, Георгій Чантурыя зноў апынуўся за кратамі. Пасля вяртання ў краіну Эдуарда Шэварднадзэ нацдэмы пачалі адыгрываць ролю канструктыўнай апазіцыі, стварыўшы уплывовую фракцыю ў парламенце.

Дысцыплінаванасць і адданасць ідэі заўсёды былі адметнымі рысамі грузінскіх нацдэмаў і, варта дадаць, дастаткова рэдкімі сярод тамтэйшых палітыкаў. Інтарэс да нацыянал-дэмакратаў у Грузіі асаблівы: нядаўна яна панесла вялікую страту — 3 снежня 1994 года ў выніку замаху быў забіты іхні лідэр Георгій Чантурыя — узыходзячая зорка грузінскай палітыкі. Адзінай асобай, што засталася жывой у прабітай аўтаматнымі чэргамі машыне Чантурыі, была ягоная жонка Ірына Сарышвілі. З яе цела хірургі вынялі 6 куляў, а сёмая, якая спынілася ў палове сантыметра ад сэрца, застаецца там дагэтуль.

Страта лідэра ледзьве не стала для нацдэмаў згубнай, бо ў іх шэрагах пачаўся разлад. Спрэчкі за месца кіраўніка пачаліся паміж палітычным сакратаром партыі Мамукам Геаргадзэ, настроеным менш радыкальна і больш прагматычна, ды Ірынай Сарышвілі — удавой былога кіраўніка, якая выступала ў падтрымку ранейшага курсу арганізацыі, які не задавальняў кіруючую ў Грузіі эліту.

У канцы лютага вагі схіліліся ў бок Сарышвілі. Гэта значыць, нацыянал-дэмакраты ў сваёй дзейнасці будуць па-ранейшаму кіравацца перадусім інтарэсамі свайго народа і краю.

**У.П.**

## Вяртанне імёнаў

Прэзідэнтам Казахстана Нурсултанам Назарбаевым выдадзеная пастанова, згодна з якой грамадзяне краіны атрымалі магчымасць вярнуць сабе традыцыйныя казахскія прозвішчы і імёны па бацьку, скасаваўшы ў іх канчаткі, уласцівыя расійскай мове. Акрамя вяртання гістарычных нацыянальных імёнаў, казахі цяпер могуць дадаваць да імя па бацьку замест расійскіх «-овіч», «-овна» казахскія «-улы» (мужчыны) або «-кызы» (жанчыны).

# Чужынцы

Дзеючае ў Эстоніі заканадаўства патрабуе ад жыхароў краю, што дагэтуль не маюць грамадзянства, да сярэдзіны гэтага года альбо стаць грамадзянамі Эстоніі, альбо пакінуць краіну. Прызначэнне гэтых нарматыўных актаў — вырашэнне праблемы так званага расійскамоўнага насельніцтва — асобаў, якія перасяліліся ў Эстонію з абшараў СССР (пераважна з Расіі) у час знаходжання краіны пад савецкай акупацыяй. Сярод такіх жыхароў Эстоніі ёсць і беларусы. Як глядзяць яны на свае праблемы?

На жаль, на гэтае пытанне нельга адказаць адназначна, бо эстонскія беларусы, якіх там каля 25 000, не ствараюць адзінай супольнасці. У краі існуе пяць беларускіх суполак і аб'яднанняў, кожнае з якіх працуе, мала кантактуючы з іншымі. Але большасць нашых былых суайчыннікаў засталася ўвогуле па-за іх межамі. І сёння ці мала хто з гэтых людзей з надзеяй глядзіць у бок Расіі, так і называючы сябе — расійскамоўныя беларусы. Больш таго, існаванне нацыянальных суполак ці беларускіх праграм на эстонскім радыё яны называюць чыннікам расколу паміж беларусамі і расійцамі.

Большасць эстонскіх беларусаў прыехала на сваю новую радзіму пасля 1945 года, калі савецкія ўлады заахвочвалі іх да пераезду. Міграцыя спрыяла хутчэйшай адбудове зруйнаваных гарадоў і заводаў. Але яшчэ адной яе мэтаю было павелічэнне ў краі колькасці насельніцтва, мовай якога была расійская, а мысленне — савецкім. Сёння гэтыя людзі, ужо старыя і нямоглыя, якія жылі і працавалі ў Эстоніі ўсё жыццё, не маюць магчымасці атрымаць эстонскі пашпарт, бо не валодаюць дзяржаўнай мовай. Падобныя праблемы мае і новае пакаленне савецкіх беларусаў, якое нарадзілася і вырасла ў Эстоніі ў расійскамоўным асяроддзі, створаным іхнімі бацькамі.

Сёння жыхары Эстоніі, што не валодаюць мовай і не маюць грамадзянства, адчуваюць сваю няроўнасць: яны першымі губляюць працу і апошнімі яе знаходзяць. Законы Эстоніі адпавядаюць міжнародным нормам, але, як лічаць прадстаўнікі расійскамоўнай меншасці, у дачыненні да іх яны парушаюцца. Праўда, парушэннем законаў яны называюць стан, у якім чалавек, які працуе ў дзяржаўнай арганізацыі, павінен ведаць дзяржаўную мову незалежна ад таго, карыстаецца ёй у сваёй працы ці не. Таму людзі, якія адчуваюць сябе чужымі ў краіне, спіхваюцца — адкрыта ці прыхавана — на сацыяльнае дно. Але ці ёсць гэта несправядлівасцю? Ці можа асоба, якая не валодае дзяржаўнай мовай, займаць дзяржаўныя пасады ў нейкай краіне свету?

Сёння мноства людзей, чые бацькі ці якія самі прыехалі ў Эстонію з Беларусі, звяртаюцца ў беларускае пасольства, каб атрымаць наша грамадзянства незалежна ад таго, кім яны сябе лічаць — беларусамі, палякамі ці, часцей, расійцамі. Бо яны ведаюць: ужо ў другой палове года асобы без грамадзянства могуць быць прымусова выселеныя з Эстоніі. Куды? Найбольш верагодна — у Расію, з якой іх лучыць мова і свядомасць. Выхаваныя ў чужой культуры, яны не адчуваюць сябе ні беларусамі, ні эстонцамі.

**Падрыхтаваў У.П.**

# В Е Р У Е М

## Мова і божаскасць

У Біблії, у кнізе прарока Ісаі, у 41-м раздзеле, 17—20 вершах напісаныя такія словы:

«Бедныя і жабракі шукаюць вады, і няма яе: язык іх сохне ад смагі: Я, Гасподзь, пачую іх, Я, Бог Ізраіля, не пакіну іх. Адкрыю на гарах рэкі і сярод далінаў крыніцы; пустыню зраблю возерам і сухую зямлю — крыніцамі вады. Пасаджу ў пустыні кедр, сітым, і мірту, і масліну; насаджу ў стэпе кіпарыс, явар і букразам, каб убачылі і спазналі, і разгледзелі і ўразумелі, што рука Гасподняя зрабіла гэта, і Святы Ізраіля стварыў гэта».

Беларусь стаіць перад шматлікімі праблемамі: мова, эканоміка, палітыка, культура, ахова здароўя, адукацыя і яшчэ вялікая колькасць праблемаў, аб існаванні якіх некаторыя людзі не здагадваюцца. Беларусь з'яўляецца пустыняю і сухой зямлёй для Бога. Але Бог можа і хоча дапамагаць людзям у вырашэнні іх праблемаў, і дрэнна таму чалавеку, які не жадае прыняць Божай дапамогі і Божага ўкладу жыцця. Праблема беларускай мовы — гэта праблема беларускага народа і праблема Божага народа, Хрысціянаў. Біблія гаворыць, што мовы людзям даў Бог, і кожнаму народу Ён даў тую мову, якую захацеў. Людзям уласціва наракаць, наракаць на Бога, на лёс, на іншых людзей. Людзям не спадабалася свая мова, якой бы прыгожай яна ні была! І мова, Божы дар, прыйшла ў занядбанне ў гэтым народзе. Хто ў гэтым вінаўны? Хіба Бог? Хто вінаўны ў тым, што Бог хоча даць людзям жыццё, а людзі абіраюць смерць? Хто вінаўны ў тым, што людзям падабаецца быць жывёламі і жыць у брудзе і нячыстасці?

Я пэўны, што ўсе праблемы сыходзяць ад няправільных узаемаадносінаў чалавека з ягоным Творцам, з Богам. Чалавек нават становіцца ў апазіцыю да Бога, яму не патрэбны Бог, яму не патрэбная Божая дапамога, ён жадае жыць незалежна ад Бога. Бог у такім выпадку не гвалтуе чалавека, і што маеш, тое маеш.

Прарок Эзэкіль занатаваў наступныя словы (22:24—31):

«Сын чалавечы! Скажы народу: ты — зямля неабчышчаная, зямля, якая не арашаецца дажджом у дзень гневу! Змова прарокаў зямлі гэтай сярод яе, як леў рыкаючы, які раздзірае здабычу; з'ядаюць душы, аббіраюць маёмасць і каштоўнасці, і памнажаюць колькасць удоваў... Князі ў гэтай зямлі як ваўкі, якія выкрадаюць здабычу; праліваюць кроў, губяць душы, каб атрымаць прыбытак.... А ў народзе прыгнятаюць адзін аднаго, рабуюць і прыгнятаюць беднага і жабрака, і прышэльца прыгнятаюць несправядліва.... Шукаў Я ў іх чалавека, які паставіў бы сцяну і стаў бы перада Мною ў праломе за гэтую зямлю, каб Я не загубіў яе, але не знайшоў. Дык Я выльлю на іх гнеў Мой, агнём ярасці Маёй вынішчу іх, паводзіны іх перавярну ім на галаву, кажа Гасподзь Бог».

А Вы хацелі б, каб Бог дапамог Вам, Вашаму народу, Вашай зямлі? Бог хоча знайсці хоць аднаго вернага чалавека ў кожнай царкве, у кожным месце, у кожным народзе, каб ён стаў у праломе ў малітве да Бога за сваю зямлю. Падумайце, можа быць Вы той самы чалавек, якога не хапае Богу для супрацоўніцтва? Можа быць менавіта Вы патрэбны Богу на гэтае служэнне, каб Ён не загубіў гэтую зямлю? У Другой кнізе Летапісаў (16:9) сказана:

«Вочы Гоcпада аглядаюць усю зямлю, каб падтрымліваць тых, чыё сэрца поўнасцю адданае Яму!»

Аддайце сваё сэрца Яму, Усемагутнаму Богу. І Ён будзе падтрымліваць Вас на ўсіх Вашых сцяжынах. Ісус Хрыстос хоча выратаваць Вас і падарыць Вам жыццё! Прыйдзіце да Яго з пакаяннем! Ён любіць Вас.

**Алег ФЕДАРОВІЧ.**

*Да 2000-годдзя хрысціянства*

## Ерасулім — першая хрысціянская супольнасць свету

Біблійны Ерусалім стаў месцам укрыжавання Ісуса Хрыста і спаслання Святога Духа, але ўжо некалькімі стагоддзямі раней ён быў цэнтрам майсеевай рэлігіі, сталіцай Божага Народа Старога Запавету і асяродкам габрэйскай культуры. У Ерусаліме дзейнічала першая лакальная Царква і адбыўся апостальскі сабор. У гэтым горадзе яна пацярпела першы пераслед і была асвечана пакутніцтвам дыякана Сцяпана і Апостала Якуба.

Закладанне Царквы адбывалася паступова. Хрыстос ствараў яе істотныя элементы пад час усёй сваёй дзейнасці ад хросту ў Ярдане да смерці на крыжы. Тэрыторыяй дзейнасці Хрыста была Галілея і Юдэя, але месцам апошняга часу жыцця, смерці і ўваскрашэння стаў Ерусалім, святы горад, абраны Богам, месца Святыні і правобраз будучага рая. Гэтымі азначэннямі ўзнагароджваўся Ерусалім у юдэйскай рэлігійнай традыцыі.

Хрысціяне ў Ерусаліме былі як мясцовага паходжання, так і з тых габрэяў, што жылі ў дыяспары. Колькасць новых хрысціян расла вельмі хутка. Да трох тысячаў навярнулых у дзень Спаслання Святога Духа далучаліся новыя. Абазначэннем гэтай ерусалімскай супольнасці стала грэцкая назва «эклезія» (Царква, Касцёл), г.зн. пакліканая Богам грамада. Назва «хрысціяне» паўстала пазней (каля 43 г.) у Анцыохіі. Да гэтага часу вызнаўцы Хрыста называлі сябе «браты», «вучні», «вернікі».

Рэлігійнае жыццё ерусалімскай Царквы фармавала навука і прыклад Апосталаў. Надалей хадзілі ў святыню, стварылі там уласную малітоўную групу, штодзённа збіраліся ў дамах на ламанне хлеба (спраўленне Эўхарысыі).

Рэлігійным зместам ерусалімскай Царквы была вера ва ўваскрашэнне Ісуса як сапраўднага Месіі і эсхаталагічнае чаканне Яго паўторнага прыходу.

Структура Царквы абапіралася на Калегію дванаццаці. Апосталы былі сведкамі і настаўнікамі жыцця, смерці і ўваскрашэння Госпада Ісуса, накладалі рукі, арганізоўвалі хрысціянскія супольнасці і як пастыры кіравалі імі. Апосталы ўстанавілі інстытут дыяканаў. Колькасна ўзрастаючая ерусалімская Царква мела ў іх вялікую патрэбу. Навернутыя эліністкія габрэі пачалі наракаць на хрысціян Юдэі, што пад час дапамогі жабракам яны забываюць аб іхніх удовах. Апосталы заявілі, што не могуць занядбаць абвяшчэнне Евангелля, дзеля выключнай дапамогі бедным, гэта заданне было даручана дыяканам. У іх абавязкі таксама ўваходзіла абвяшчэнне Евангелля, дапамога пад час адпраўлення Эўхарыстыі і хрышчэнне нованароджаных. Старшыя (гр. прэсбітэры) былі трэцім інстытутам у ерусалімскай Царкве. Устаноўленыя па ўзору старшых у Санхедрыне і сінагогах, былі памочнікамі Апосталаў, дапамагалі кіраваць супольнасцю. Яны стварылі прэсбітэрскую калегію, кіраўніком якой у Ерусаліме стаў Якуб.

Пераслед ерусалімскай Царквы пачаўся ад паўстання Апосталаў Пятра і Яна перад судом Санхедрына. Святары і садукеі абвінавачвалі іх у навучанні народа аб уваскрослым Ісусе, але суд быў змушаны вызваліць іх пад націскам людзей. Хутка Апосталаў зноў арыштавалі і пасадзілі ў вязніцу, адкуль іх вызваліў Гасподні анёл, і яны зноў навучалі ў святыні як падаюць Дзеянні Апосталаў. Наступны пераслед тычыўся не толькі Апосталаў, але і ўсёй Царквы ў Ерусаліме і ўсёй Палесціне. Сінагогі Вызваленцаў, Кірынэйцаў і Александрыйцаў выступілі супраць дыякана Сцяпана, абвінавацўшы яго ў блюзнерстве супраць святыні і Права, і закаменавалі. Рассеянне Апосталаў па свеце было вынікам пераследу ерусалімскай Царквы ў 43 г. за часоў Ірада Агрыпа. Кароль пачаў яго, калі па волі рымскага цэзара Клаўдзія стаў уладаром усёй Палестыны. Па яго загаду арыштавалі і закатавалі Апостала Якуба Старшага, ён хацеў схапіць і Пятра, але той уцёк з вязніцы і падаўся праз Анцыохію ў Рым.

Мір ерусалімскай Царкве прынесла раптоўная смерць Ірада ў 44 годзе. Царква развівалася пад кіраўніцтвам Якуба Малодшага, які вёў суровае, аскетычнае жыццё. Ён загінуў пакутніцкай смерцю, скінуты з вяршыні святыні пад час чарговага пераследу ў 62 годзе.

Разбурэнне Ерусаліма ў 70 г. было вынікам паўстання, паднятага супраць рымскага панавання. Распачатае чатырыма гадамі раней, яно ператварылася ў крывавую вайну і стала катастрофай для ўсяго габрэйскага народа. Паўстанне нанесла ўдар і ерусалімскай Царкве, вернікі якой пакінулі горад, які трапіў у аблогу, і схаваліся на ўсходнім беразе Ярдана. Пакіданне Апосталамі Ерусаліма і пазнейшае знішчэнне горада зрабіла лягчэйшым зразуменне ў Царкве яе універсальнага характару і развіцця хрысціянскай місіі сярод паганцаў элінскай культуры.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

*Я чытаю Біблію*

## Бабілонская вежа

Напачатку была ў людзей адна мова. Адна мова — значыць, адзін на ўсіх розум.

Аднойчы сабраліся яны і сказалі: пабудуем вежу вышынёй да нябёсаў і праславім сябе. Дурное сказалі, але не было другой мовы і не было другога розуму.

Пачалі яны абпальваць цэглу і ўзводзіць вежу ўсё вышэй і вышэй. І звялі б на гэта ўвесь пясок і ўсю гліну, усё, з чаго складаўся шар зямны, а неба не дасталі б. І лётала б па Сусвету Зямля не круглая, а як доўгая дубіна, на якой жыць было б ужо немагчыма.

І ўбачыў Бог, што не адступяцца яны ад задуманага і загінуць ад свайго ж глупства. І даў ён многія мовы, і рассеяў людзей па свету, і перасталі яны разумець адзін аднаго.

Так і жывуць дагэтуль з рознымі мовамі.

Але моўныя межы — не перашкода для разумнага чалавека, для разумнай ідэі. Для дурной жа ідэі, для дурнога чалавека гэтыя межы непераадольныя.

Пакуль існуе на Зямлі шматмоўе, чалавецтва можа быць спакойным і ўпэўненым. І кожны раз чалавецтва павінна насцярожвацца, калі дзесьці ствараецца вялікая супольнасць з адной моваю. Адтуль чакай новай Бабілонскай вежы! Ці рэкі возьмуцца паваротваць, ці моры асушваць, ці горы перасоўваць, ці ледавікі растапляць...

Колькі такіх ідэй нарадзілася і яшчэ не памёрла ў навуковых і дзяржаўных кабінетах былога СССР! А ўсё з-за таго, што на «адной шостай частцы Зямлі» панавала адна мова, а значыць, адзін розум, і для дурных ідэй не было перашкод.

Уратуй нас, Божа, ад сусветнага аднамоўя, бо загінем на Бабілонскай вежы!

**Міхась БУЛАВАЦКІ.**

## Рэлігійная хроніка

*Пасля судовага працэсу ў г.Кіеве, які працягваўся амаль год, вынесены прысуд трэім галоўным кіраўнікам скандальна вядомага «Вялікага Белага Брацтва». Кіраўнік секты Юрый Крываногаў асуджаны на 7 гадоў турэмнага зняволення суровага рэжыму, ягоная жонка Марыя Цвігун-Крываногава — на 4 гады. Намеснік Крываногава В.Кавальчук атрымаў 6 гадоў зняволення.*

* * *

Праваслаўныя, мусульмане і іудзеі ўдзельнічаюць у маршы міру Каравана Спачування, які выйшаў з Масквы. Яны хочуць пазнаёміць грамадскасць Расіі і свету з трагедыяй Чачні і Паўночнай Асеціі, а таксама звярнуць увагу на пагрозу фашызму і шавінізму ў сваёй краіне. Агульная траса маршу праходзіць праз Маскву, Назрань, Грозны, Махачкалу, Баку, Анкару, Ерусалім, Меку, Сараева, Рым, Парыж, Брусель, Лондан, Вашынгтон, Чыкага, Лос-Анджэлес, Жэневу і Берлін.

* * *

*Мітрапаліт Менска-Магілёўскі кардынал Казімір Свёнтак наведаў з візітам Германію. У час паездкі Яго Эмінэнцыя наведаў дабрачынныя арганізацыі «Рэнавабіс» і «Царква ў патрэбе», дзе абмяркоўваліся пытанні сумеснага супрацоўніцтва і фінансавай дапамогі Касцёлу на Беларусі.*



Рэстаўруецца Свята-Петра-Паўлаўская царква ў вёсцы Сенніца, што каля Менска.

Аўтар рэстаўрацыі архітэктар Тацяна Люзіна.

На малюнку Алены Зіноўевай — так будзе выглядаць аднаўленая царква.

* * *

Сёлета ў Беларусі будзе створаны камітэт па падрыхтоўцы Юбілею 2000 года. Зараз прызначаны карэспандэнт, які займаецца каардынацыйнай дзейнасцю паміж нашай краінай і камітэтам па падрыхтоўцы Юбілею ў Рыме.

* * *

*Згодна з пастановай Святога Сінода Рускай Праваслаўнай Царквы клірык Свята-Аляксандра-Неўскай царквы г.Менска Аляксандр Кішчанка абраны епіскапам Гродзенскім і Ваўкавыскім. Ён пастрыжаны ў манаства з імем Арцемій і ўведзены ў сан архімандрыта. У Менскім кафедральным саборы Святога Духа адбылася епіскапская хіратонія, якую ўзначаліў Патрыяршы экзарх Беларусі Мітрапаліт Філарэт у саслужэнні ўсіх архіерэяў Беларускай Праваслаўнай Царквы.*

* * *

Адбыўся выпуск на тэалагічным факультэце Менскага Біблейнага Інстытута Евангельскіх хрысціян-баптыстаў. Выпускнікі факультэта распачнуць пастырскую дзейнасць у парафіях царквы ЕХБ на Беларусі.

* * *

*У Загрэбе з'явілася выданне Старога Запавету для сляпых у перакладзе на мову Брэйла. Праца, якая налічвае 36 тамоў, бясплатна перададзена амаль для 20 тысяч сляпых у Харватыі. Ажыццяўленне гэтай ініцыятывы стала магчымым дзякуючы фінансавай дапамозе харватаў, якія жывуць на Захадзе. Колькасць сляпых у Харватыі, а таксама ў Босніі і Герцагавіне значна павялічылася за апошнія пяць гадоў вайны.*

* * *

Тры хрысціянскія патрыярхі Ерусаліма распачалі канкрэтныя дзеянні дзеля аб'яднання хрысціянаў у межах падрыхтоўкі Юбілею 2000 года. У супольным звароце лацінскі патрыярх Міхель Сабаг, грэка-праваслаўны Дыядорас і армянскі Гаркам Манагян звярнуліся да сваёй паствы з заклікам да супрацоўніцтва і паляпшэння міжканфесійных адносінаў. Хутка пачнецца падрыхтоўка вялікай міжканфесійнай канферэнцыі, а таксама пабудова экуменічнага цэнтра ў Ерусаліме. Рыхтуецца выданне супольнай кнігі, у якой кожная хрысціянская Царква прадставіць сябе і сваю гісторыю.

(KAI).

**Падрыхтаваў А.Н.**

**ВУЧЫМСЯ**

**Практычная стылістыка**

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# ТАКАЯ І ГАВОРКА

*(Працяг.)*

*Без'языкасць многіх нібы інтэлігентаў, прыкрую засмечанасць іх гутаркі «высокакультурнымі» словамі, нахапанымі на прыблізнай вучобе, з лекцый і дакладаў, з радыё і газет, проста, здаецца з паветра, як нейкі мор, — запомніць, вывучыць цяжэй, чым любую замежную мову.*

**Янка Брыль.**

Без'языкасць у мове звычайна праявакуюць канцылярызмы — механічна перанесеныя ў іншыя стылі канцылярскія стандарты складання дакументаў, напрыклад, канструкцыі з састаўнымі прыназоўнікамі **з мэтай, па прычыне, з надыходам**; спецыфічны лексікон і сінтаксіс (**зарэкамендаваць, з'яўляцца, звярнуць увагу на недапушчальнасць, прыняць меры, аказанне дапамогі**), у тым ліку наменклатурныя словы (**гандлёвая сетка, макаронныя вырабы, хлеба-булачныя вырабы, лячэбная ўстанова, педагагічны калектыў**). Прыкладам суцэльнай канцылярšчыны з'яўляецца пачутая па радыё фраза: «З мэтай набыць макаронныя вырабы я наведала гандлёвую сетку». Такая афіцыйнасць недарэчная, можна сказаць прасцей і канкрэтней: «Забегла/зайшла ў краму па вермішэль (локшыну, макарону)». Стылістычнай памылкай будзе і агляд творчасці паэта ў стылі сухой характарыстыкі: «Рыгор Барадулін зарэкамендаваў сябе майстрам наватвораў». Для параўнання працытуем словы Міхася Стральцова: «Ёсць адзнакі і прыкметы адчувальна новага Барадуліна — паэта, таго, якога мы ведаем сёння — з яго энергічнай, але грунтоўнай апавядальнасцю, з яго выразна акцэнтаваным вершам, з яго своеасаблівай рыфмоўкай, з любоўю да выразна аўтарскага, індывідуальнага слоўніка». У гэтым выказванні не толькі тонка і глыбока раскрыта сутнасць творчай асобы, але перададзена захапленне вершамі Барадуліна, адлюстравана дасведчанасць і арыгінальнасць мыслення літаратуразнаўца, — а гэта тое, што фармуе аўтарскі стыль.

Грунтоўна даследуючы праблемы стылістыкі, Рыгор Шкраба заўважае, што канцылярызмы абазначаюць рэаліі неканкрэтна, мнагаслоўна і прыблізна, ствараючы ўяўную мнагазначнасць. Прыклады яго тыповыя, выразныя ў супастаўленні з нейтральнымі, канкрэтызаванымі найменнямі: канцылярызм **пераадолець водную перашкоду** і агульнамоўнае **пераплысці раку; зрабіць цялеснае пашкоджанне — зламаць руку; штучны вадаём — копанка, цяглавая сіла — конь, вадаплаваючая птушка — качка, зялёнае насаджэнне — ліпа, дзелавая папера — заява, гандлёвая кропка — крама.**

Навуковец бачыць прычыны канцылярызмаў у непрыязнасці да сінонімаў, нежаданні думаць, шукаць, хвалявацца: канцылярская мова не ведае такіх слоў, як «ставок», «сажалка» альбо «возера». Яна на ўсе выпадкі мае адно слова: «вадаём». Іранічна, але справядліва носьбітаў такой мовы Рыгор Шкраба называе людзьмі «з выключанымі эмоцыямі», усведамляючы яе пагрозу для мыслення: «У выніку выпрацавалася мова, якая толькі на першы погляд нагадвае чалавечую. А зірнеш глыбей — пустата і бяссэнсіца». У артыкуле «Як размаўляюць людзі» даследнік дае прыклад паслядоўнага аналізу зацемненага канцылярызмамі зместу выказвання, прапануе спосаб яго расшыфроўкі — канкрэтызацыю і ўдакладненне. Штуршком такога разгляду паслужыла наступная фраза: «За час прабывання ў лагеры вучні навучыліся даглядаць расліны на вялікіх плошчах, праводзіць механізаваную апрацоўку зерневых і тэхнічных культур, карняплодаў, праводзіць хімічную прапалку лёну, сіласаванне дзікарослых траў». Логіка вучонага строгая, заўвагі справядлівыя: «Думка... так грунтоўна зашыфравана, што нават следчы, не правёўшы папярэдне дазнанне, не скажа, што рабілі ў лагеры вучні. Даглядалі расліны — каноплі ці баабабы? На вялікіх плошчах — дзесяць гектараў ці тысяча? Механізаваная апрацоўка — што гэта такое? Што ж, нарэшце, рабілі вучні? Пратручвалі насенне, пасынкавалі тытунь ці палолі кукурузу? Прачытаўшы такі тэкст, сапраўды падумаеш, што мова дадзена чалавеку для таго, каб рабіць свае думкі незразумелыя другому». Гэты прыклад упэўнівае, што канцылярызм часта тоіць недасведчанасць размоўцы, яго прыблізнае, недакладнае, павярхоўнае веданне (а часам і няведанне) прадмета гаворкі.

Ян Скрыган, усведамляючы псіха- і сацыялінгвістычную прыроду канцылярызма, называў іх **канцылярска-бюракратычным штукарствам.** Гэта стылістычная памылка звязана не толькі з нізкім узроўнем ведаў, але народжана зманлівым уяўленнем пра ўзорную мову, эталонам якой, паводле К.Паўстоўскага, лічаць «шаблонную і няўклюдную мову пратаколаў і справаздач», што звязана з парушэннем нормаў функцыянальных стыляў. Акрамя канцылярызмаў, па гэтай прычыне ў маўленне трапляюць спецыфічныя кніжныя словы — тэрміны, найменні іншакультурных рэалій. Напрыклад, можна сказаць **плантацыя чаю, рысу**, а словазлучэнне **плантацыя бульбы** — стылістычная памылка, злоўжыванне спецыфічнымі словамі. Тая ж памылка ў сказах **Мы прыйшлі на санацыю** і **Беражыцеся кантагіёзных захворванняў.** Для іх у літаратурнай мове лёгка знайсці прыдатныя адпаведнікі, напрыклад, **Мы прыйшлі лячыцца** і **Сцеражыцеся заразных хваробаў.**

Абедзве гэтыя стылістычныя памылкі — канцылярызмы і спецыфічныя словы — ды яшчэ слоўныя штампы ствараюць рэалістычную моўную характарыстыку Самсону Самасую, герою рамана Андрэя Мрыя. У моўным парадзіраванні беларускі пісьменнік блізкі метаду М.Зошчанкі, абодва творцы арыгінальна адлюстроўваюць небяспечную для абедзвюх моў тэндэнцыю. Канцылярска-бюракратычныя штукарствы Самсона, малапісьменнага, неадукаванага, аднак спрактыкаванага прыстасаванца, — сатыра на стыль, сатыра на бездухоўнасць, сатыра на жыццёвую пазіцыю: «Мне хацелася **распачаць спрэчкі**, аднак матка, як відаць, **своечасова** міргнула бацьку і **дала** яму **дырэктывы** маўчаць. У гэты час чарэмха ў поўным росквіце, і пах яе, калі прыйшлі мы, вельмі прыемна казытаў **перыферычныя нервы насавога апарата**. Бяспрэчна, шпацыроўка выклікала ў нашым арганізме **бурнае развіццё** апетыту; Неабходна ў нардоме правесці шэраг лекцый на **жыватрэпетныя тэмы**».

Адукаванаму чалавеку сапраўды надзвычай складана спасцігнуць і прыняць такую мову, тым і адрозніваецца духоўнасць ад бездухоўнасці, вучонасць ад невуцтва. Аднак стаць вучоным, знайсці духоўнае апірышча нікому не забаронена.

*(Заканчэнне будзе.)*

**Да 300-годдзя «забароны»**

# Заняпад

Перадумовай заняпаду беларускай мовы як дзяржаўнай было паступовае ўжыванне польскай мовы вышэйшымі коламі беларускага грамадства. Моцна паўплывала на гэты працэс Люблінская унія 1569 года, але фармальна яна не закранула пытання аб мове. Беларуская мова засталася адзінай дзяржаўнай мовай ВКЛ і засталася ёю ажно да канца XVII ст. Замена афіцыйнай беларускай мовы адбылася ў 1696 годзе, але абставіны гэтай замены былі не такія, як гэта падавалася ў расійскай да беларускай савецкай гістарычнай літаратуры. Ніхто тады беларускую мову не забараняў, як пра гэта пісалі ў падручніках.

На канфедэрацыйным (Каралеўства Польскае і ВКЛ складалі канфедэрацыю) сойме 1696 года была прынята пастанова аб ураўнаванні правоў шляхты ВКЛ з польскай (каэквацыі). Сярод некалькіх яе пунктаў, якімі ўраўноўваліся правы шляхты, адным з апошніх, не галоўных, і было: «Ад гэтага часу ўсе пастановы павінны складацца на польскай мове; усе ранейшыя акты, запісы, пастановы і сведчанні захоўваюць сваю сілу...» Такім чынам, беларуская мова не забаранялася, аднак страціла статус дзяржаўнай. А гэта вяло яе да заняпаду.

У XVIII стагоддзі на тэрыторыі ВКЛ у афіцыйных установах і перш за ўсё ў розных судах, ад паятовага да Галоўнага трыбуналу Вялікага Княства Літоўскага, усе суддзі павінны былі ведаць, акрамя польскай, і беларускую мову, каб добра разбірацца ў справах і не толькі чытаць, разумець, але і тлумачыць сэнс старажытных актавых і іншых дакументаў, напісаных на беларускай мове, а таксама Статут 1588 года ды іншыя законы.

Беларуская мова вывучалася ў навучальных установах, у тым ліку і ў калегіумах каталіцкіх ордэнаў, аднак паступова выводзілася з працэсу навучання. Гэта ўрэшце прывяло да яе выцяснення польскай мовай з ужытку ў магнацкім асяроддзі і сярод верхавіны мяшчанскага саслоўя. Беларускую мову захавала сялянства, значная частка мяшчан і дробная шляхта. Яна захавалася таксама сярод уніяцкага духавенства, пашыралася ў школах пры уніяцкіх манастырах і цэрквах.

Заняпад беларускай мовы ў XVIII стагоддзі даў магчымасць царскім уладам пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння тэрыторыі Беларусі да Расійскай імперыі праводзіць дыскрымінацыйную палітыку ў дачыненні да беларускай мовы і культуры.

**Паводле выступлення доктара гістарычных навук, прафесара Анатоля ГРЫЦКЕВІЧА на канферэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы...».**

**Жывое слова**

# ПРОСТА

*— Ідзіце проста... Едзьце проста... Прастуйце праз поле...*

Так гаварылі і гавораць беларусы, для якіх родная мова з прыроды, з маленства.

А вось гэтак гаворыць люд, які не сочыць за сваёй мовай, не дбае пра яе чысціню, натуральнасць:

— Ідзіце прама... Едзьце прама... «Прама з фермы мясцовых гаспадарак сталі знікаць... бычкі», — піша «Звязда» (25.X.90 г.)

Яны ж гавораць: «кажу прама...» Калі ўжо казаць прама, то інакш як правалам гэта не назавеш» («Добры вечар», 9.XII.93 г.).

Прыродны ж беларус, беларус з прыроднай мовай і тут бы сказаў, мабыць, крышку інакш, больш натуральна. Прыкладам: *кажу шчыра.* І звяздоўскі сказ у іх таксама прагучаў бы трошкі інакш. А менавіта: *«Проста з фермы...сталі знікаць бычкі...»*

Згадзіцеся, што ў згаданым прыкладзе слова «проста» на сваім месцы.

А што кажуць нашы слоўнікі? Яны таксама аддаюць перавагу слову «проста», ставяць яго на першае месца. Слова ж «прама» у дужках, як дапушчальнае. *Ідзіце проста* (прама), *трымайцеся проста* (прама, роўна), *будзем гаварыць проста, адкрыта, шчыра; глядзець проста ў вочы каму-небудзь; ён проста-такі герой, проста трэба гэта зрабіць...*

Гэткай нормы раіць нам трымацца нават руска-беларускі перакладны слоўнік 1953 года выдання. З яго, паміж іншым, і прыклады. А гэты ж слоўнік вядома, у які час выдаваўся. Тым не менш, укладальнікі яго ўсё ж аддалі перавагу слову «проста».

Чаму ж гэтак руплюся пра згаданае слова? Дый не толькі за яго...

У 1956—1958 гадах мне давялося жыць у далёкім Мурманску. І вось там я не раз чуў: «Скажы-ка, Валодзя, як там, твае бульбашы гавораць». Яны хацелі, каб я сказаў «трапка», «куру», «бруха», «прама» і яшчэ штось гэтым кшталтам. Я добра разумеў, куды і для чаго кіруецца гаворка. І я адводзіў ад сябе гэты ўдар так. Казаў: «У нас на кожнае ваша слоўка ёсць сваё: «тряпка» ў нас «анучка», «брюхо» — чрэва, «курю» — палю. А «прямо» — у нас гэта «проста». Так што, выбачайце: пасмяяцца вам з мяне не давядзецца».

З мяне не давядзецца. А з іншых? Вось таму і пішу гэтую нататку, пішу і кажу: «Не дазваляйце, каб смяяліся! Не дапускайце калецтва мовы, тады і смяяцца ніхто не будзе, а толькі паважаць, дый яшчэ дзячыць могуць. За што? За адкрыццё сваёй мовы, сваіх слоў. Не адны ж на свеце толькі рагатуны жывуць. Шмат людзей і цікаўных. Вось калі ім як належыць раскажаш пра сваю мову, то адразу вас і запаважаюць і будуць пры любой нагодзе распытвацца, што і як у тваёй мове завецца. Ну, а калі і надалей будзеце казаць: «бруха, трапка, прама» і з вас будуць смяяцца, то наракайце на саміх сябе і ні на каго больш».

Усё, як бачыце, у прыродзе і між людзей, вельмі ўсё проста! А ўсё, што проста, гэта мудра.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

*Мікалай КРЫЎКО — беларушчына.*
*Алена ШЧУКА — англійшчына.*

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПО́ДБЕГАМ** (робячы бег, пускаючыся ў бег уперамежку з хадзьбой) *Жарнавік хадзіў подбегам, вечна спяшаўся — ці то на які, як кажуць, вытворчы аб'ект, ці на станцыю* (Пестрак), **ПАДБЕ́ГАМ** *Салдат у пілотцы, відаць, хацеў падысці да бацькоў па-страявому, але, заўважыўшы нейкі жэст маёра, збіўся з роўнай хадзьбы і два-тры крокі зрабіў падбегам* (Грамовіч), **З ПОДБЕГАМ** *Ён [Андрэй] пайшоў быў з подбегам. Пасля прыцішыў хаду* (Пташнікаў). *Кроер заўважыў у руках у конюха карабач. Ірвануў яго з рук дваровага і з подбегам, сагнуўшыся, ударыў Корчака па твары* (Караткевіч), **ПО́ДБЕЖКАМ** *Валодзя пайшоў берагам подбежкам, каб быць з лодкай упоравень* (Міська), **ПО́ДБЕЖКІ** размоўнае *Дзед, праўда, змоўчаў — збаяўся пагрозы. Павярнуў і подбежкі падыбаў берагам Сожа* (Масарэнка), **ПАДБЕ́ЖКАМ** разм. *Цётка Фядора — траха не падбежкам бегла — спяшалася дадому* (Васілевіч), **З ПАДБЕ́ЖКАЙ** (або **З ПАДБЕ́ЖКАЮ**) разм. *Бачу: белых дзядзькоў мітусня — Мех за мехам з падбежкаю носяць* (Лойка), **УПО́ДБЕГ** разм. *Марцін збочыў з поля на шлях, кульгаючы, уподбег дагнаў калёсы і сеў* (Мележ), **УПО́ДБЕГА** разм. *На каменнай выспе, нібы пастаўленай у басейн з вадою, уподбега хадзіў мокры воўк* (Лужанін), **УПО́ДБЕЖКІ** разм. *Рыгор уподбежкі пайшоў ад Пасадскае напрамкам да клінікі Віллie* (Гартны), **УПО́ДБЕЖКУ** разм. *За ім [Гнібам] тупае ўподбежку Ярыга* (Лынькоў), **ПАДБЯГА́ЮЧЫ** *Ісці падбягаючы.* — Параўнайце: Бягом.

**ПО́ДЛА** (у найвышэйшай ступені несумленна) *Мне з юнацтва было ўжо ясней яснага. Пытанне жыцця і смерці: Подла — жыць толькі дзеля шчасця ўласнага, Гонар — за шчасце народа памерці* (Жычка), **НІ́ЗКА** *Уяўляеце сабе, як гэта было нізка, подла і агідна?* (Васілевіч), **ГАНЕ́БНА** *— Для самазаспакаення думайце, што гэты інсургент быў крыклівы кар'ерыст, а яго жонка — распусніца. — Гэта ганебна, тое, што вы кажаце. — Ідзіце па трупах, дарагі Гораў, ідзіце па трупах...* (Караткевіч), **ГНЮ́СНА** разм. *— Яна зрабіла брыдка, зрабіла гнюсна, Лара* (Мурашка).

**Подла.** Сінанімічны рад дзеепрыслоўяў з гэтым сэнсам у англійскай мове наступны: **meanly, fouly, ignobly.** Усе яны ўтвораны ад адпаведных прыметнікаў (гл.ніжэй) пры дапамозе суфікса **-ly.**

**ПО́ДЛАСЦЬ** (несумленнасць у найвышэйшай ступені, амаральнасць) *Подласць і здрада ніколі не паважаліся нават тымі, дзеля каго і на чыю карысць яны рабіліся* (Мехаў), **НІ́ЗАСЦЬ** *Вакол мяне душыцеляў гайня. Каранам б'юць па чалавечых марах, А ў кожнай суры — нізкая хлусня... І нізасць рабская у кожным твары* (Караткевіч), **ГАНЕ́БНАСЦЬ** *Яна [Валя] уяўляла, як паглядзіць на Праснака пры наступнай сустрэчы, і шукала слоў, якія павінна сказаць яму — такіх слоў, якія прымусілі б яго адчуць усю ганебнасць свайго ўчынку* (Шамякін), **ГНЮ́СНАСЦЬ** разм. *Раскрыць гнюснасць. Гнюснасць учынку.*

**Подласць.** Два сінанімічныя англ. назоўнікі **meanness, foulness** таксама, як і ў папярэднім выпадку з дзеепрыслоўямі, утвораны ад адпаведных прыметнікаў (гл. ніжэй), але ўжо з іншым суфіксам, менавіта **-ness.**

**ПО́ДЛЫ** (пра чалавека, учынак, дзеянне і пад.: у найвышэйшай ступені несумленны, амаральны) *[Тарас Іванавіч:] — Разумныя людзі спачуваюць вам, дурні, прахвосты ганяць, а болей хітрыя і подлыя маўчаць* (Колас). *Перад вайной не давялося мне бачыць ніводнага артыкула пра яе — ні шчырага, ні подлага, ні разумнага, ні дурнога, і меў аб гэтай кнізе толькі ўласную думку* (Брыль), **НІ́ЗКІ** *Адзін грамадзянін, Даволі подленькі і нізкі, У суд звярнуўся таварыскі, — Абразілі яго* (Корбан). *Так, селянін Кандрат Гоцкі, даючы ацэнку дзеянням старасты ў вёсцы, вызначае сутнасць яго нізкай натуры* (Фіглоўская), **ГАНЕ́БНЫ** *Пачаўшы свой шлях назолістым жаніхом, гаспадарскі сын апускаецца да ўзроўню ганебнага правакатара і адшчапенца* (У.Калеснік). *І няма ратаю рады. Ад ганебнай дзікай здрады Страціў волю ён* (Бядуля), **ГНЮ́СНЫ** разм. *[Серакоўскі:] — І, акрамя таго, нездавальненне народаў Польшчы, Літвы і Беларусі гнюснай палітыкай імператара і ягонай камарыллі пераходзіць у ярасць* (Караткевіч). *Пятнаццацігадовы юнак даў сабе клятву: ніколі не забыцца на той гнюсны бесчалавечны ўчынак* (Пальчэўскі).

**Подлы.** Сінанімічны рад прыметнікаў складаюць 4 адзінкі: **mean, foul, base, ignoble**. Дамінантай у ім з'яўляецца прыметнік **mean**, астатнія 3 сінонімы — словы кніжныя (у тым ліку і *foul*, але толькі ў сэнсе 'подлы'). Тры прыметнікі з гэтага сінанімічнага раду ўжываюцца як асновы для ўтварэння адпаведных дзеепрыслоўяў, а два *-mean* і *foul-* для ўтварэння адпаведных назоўнікаў.

Такім чынам, мы маем яшчэ адзін прыклад існавання паралельных словаўтваральных гнёздаў у бел. і англ. мовах.

*Выставы*

# Суполка «Пагоня» служыць грамадству

І на гэты раз выстава творчай суполкі «Пагоня», прымеркаваная да свята 25 сакавіка, прыцягнула да сябе вялікую колькасць гледачоў — перш за ўсё творамі высокай мастацкай пробы, разнастайнымі па тэматыцы, жанру і манеры выканання, а таксама творамі «На злобу дня», палітычная афарбоўка якіх выклікала незадаволенасць уладаў. Адкрыццё выставы адбылося 25 сакавіка ў менскім Палацы мастацтваў у прысутнасці шматлікіх дзеячаў культуры, літаратуры, мастацтва, студэнцкай моладзі і журналістаў. Перад публікай выступілі народны паэт Ніл Гілевіч, народны пісьменнік Васіль Быкаў, старшыня БНФ Зянон Пазьняк, старшыня суполкі «Пагоня» Аляксей Марачкін і мастак Мікола Купава.

**Ніл Сымонавіч** выказаў шкадаванне, што не ўсе яшчэ беларускія творцы далучыліся да вялікай ідэі нацыянальнага адраджэння і, больш таго, некаторыя з іх падтрымліваюць тых, што сёння ганьбяць і прадаюць радзіму. Аднак, падкрэсліў выступоўца, не будзем вельмі ўпадаць у роспач і бедаваць. Учарашні ўсенародны мітынг у Менску засведчыў, што няхай бядуюць і ўпадаюць у роспач тыя, якія хочуць спыніць наш рух да свабоды і незалежнасці.

**Васіль Быкаў** адзначыў: сапраўднае мастацтва, нацыянальнае мастацтва заўсёды маральнае, асабліва тое, якое ствараецца ў сферы найперш хрысціянскай культуры. Праўда, цяпер выдаўся такі час, калі грамадства перажывае крызіс і крызіс перажывае мастацтва, аднак мы бачым, што суполка «Пагоня» знаходзіць у сябе сілы і таленты, каб служыць грамадству і найперш нацыянальнай культуры. Я думаю, што і надалей суполка застанецца вернай нацыянальнай ідэі і нацыянальнай культуры і тым самым будзе садзейнічаць захаванню нашай святой волі.

**Зянон Пазьняк** падкрэсліў, што ўсё, што ствараецца гарачым сэрцам і шчырай душой, застаецца ў гісторыі і застаецца людзям. Я перакананы, сказаў ён, што ўсё, што сёння робіцца дзеля Бацькаўшчыны, дзеля дабра ўсёй нацыі нашымі мастакамі, таксама не знікне, адыграе сваю ролю і застанецца ў нашых душах. Пажадаўшы «пагонічам» светлай будучыні, Пазьняк паказаў рэліквію — бланк пашпарта Беларускай Народнай Рэспублікі, якая, праіснаваўшы дзевяць месяцаў, аказваецца, ужо мела свае маркі, свае пашпарты і рыхтавалася да выпуску дзяржаўных грошай.

**Аляксей Марачкін** выказаў напрыканцы пажаданне, каб мемарыяльная дошка работы скульптара А.Шатэрніка заняла нарэшце сваё належнае месца на будынку, у якім была абвешчана ў 1918 годзе незалежнасць Беларусі.

З выставы прыгадваюцца цудоўныя, выпісаныя з тонкім майстэрствам, прасякнутыя лірычным настроем пейзажы Я.Баталёнка, У.Сулкоўскага, Юр'ева, Р.Сітніцы, акварэлі П.Драчова, створаныя мастакамі Я.Кулікам і М.Рыжым вобразы славутых людзей беларускай зямлі — Міндоўга, Война Войшалка, Гедыміна, Е.Полацкай, Ф.Скарыны, К.Астрожскага ды іншых; мадэрнісцкія работы М.Шматавай, А.Мацієвіча, Р.Таболіча, У.Дасюка; сатырычная графіка А.Карповіча, а таксама «Нон-стоп» А.Родзіна, алегорыя, з дапамогай якой аўтар паказвае абсурдную сітуацыю, той «бег без тармазоў», які сёння назіраецца ў нашай цывілізацыі і ў нашым грамадстве: бяжым без прыпынку, а куды? па што? Усяго ў выставе ўдзельнічала больш за 70 аўтараў.



На здымку Яўгена Казюлі трыпціх Я.Куліка: «Ефрасіння Полацкая», «Дойлід Іван», «Майстар Богша».

Перад закрыццём выставы адбылася гутарка карэспандэнта «Нашага слова» з Аляксеем Марачкіным:

**— Аляксей Антонавіч, ці ўвесь запланаваны тэрмін адпрацавала выстава суполкі «Пагоня»?**

— Фактычна яна адбыла свой тэрмін, на які мы дамаўляліся — два тыдні.

**— А якія творы выклікалі негатыўную крытыку?**

— Гэта перш-наперш мадэрновае збудаванне ў выглядзе пудзіла антыфашысцкага зместу. У панядзелак, 1 красавіка, пад націскам улад, адміністрацыя Палаца мастацтваў была вымушана дэманціраваць пудзіла. Цэнзура знайшла крамолу і ў карціне А.Клімава «Беларускі матыў». На ім — чырвоны колер над зялёным, а ўверсе лётаюць чорныя птушкі.

**— Ваш алегарычны твор «Зомбі» таксама, здаецца, выклікаў нараканні ў цэнзараў? Дарэчы, патлумачце яго змест.**

— Зомбі — гэта істота, каторая паддаецца ўплывам зверху, кімсьці кіруецца. У гэтым алегарычным вобразе я падаў зрэз нашай сітуацыі і нашай гісторыі. Аднак жыццё ўносіць папраўкі. Нядаўнія падзеі ў Менску паказалі, што моладзь ужо нельга замбіраваць і падманваць — яна вызваляецца ад пакутлівага замбіравання.

**— Ці адчуваеце Вы ўціск на сабе?**

— Адчуваю. З 3 красавіка я ўжо не загадчык кафедры жывапісу Акадэміі мастацтваў, а толькі «выконваючы абавязкі». Адчуваюць уціск і іншыя асобы.

**Ірына КРЭНЬ.**

*У старых фаліянтах*

## Размова заручоных

Адзін малады чалавек, які не грашыў мудрасцю, меўся ажаніцца. Усё ўжо было абмоўлена бацькамі маладых і сватам. Неўзабаве заручоныя павінны былі першы раз спаткацца. Бацька хлопца рашыў даць яму колькі парад, як трэба паводзіць сябе ў час першай размовы з нарачонай.

— Сынку, гэта будзе вашае першае спатканне. Ты павінны зрабіць усё, каб пакінуць аб сабе ў нарачонай самае найлепшае ўражанне. На пачатку размовы пагавары пра каханне, потым пра сямейныя справы, а пад канец — трохі пафіласофствуй.

Хлопец з разуменнем хітнуў галавою, і блаславёны бацькам, накіраваўся да нарачонай. Ейныя бацькі праз нейкі час пакінулі маладых сам-насам. Малады чалавек, помнячы бацькаву навуку, пачаў размову:

— Слухай, а ты любіш макарону?

Дзяўчына здзіўлена паглядзела на яго і адказала, што любіць.

Праз хвіліну хлопец, прытрымліваючыся бацькоўскіх парад, запытаўся зноў:

— А ў цябе ёсць брат?

— Не, няма, — адказала дзяўчына.

Хлопец апынуўся ў цяжкім становішчы. Два першыя пункты бацькоўскіх парад ён не выканаў. Пасля чаго прыступіўся да трэцяга:

— Слухай, а каб у цябе быў брат, то ці любіў бы ён макарону?

**Вычытаў Алег ДЫШЛЕВІЧ.**

*Пачутае «У Лявона»*

### Не пытаюцца

Маладзён, слухач шынковых курсаў, просіць парады:

— Скажыце, шаноўны, ці варта мне займацца кухарскай справай?

— Відаць, не, — адказвае шынковы кухар.

— Чаму?

— Ды таму, што тыя, хто любіць гатаваць, пра гэта не пытаюцца.

### Поспех

Адзін слухач кухарскіх курсаў другому:

— Сёння ў шынку ўсе толькі і гавораць пра тое, як ты ўчора абед гатаваў.

— О, так! Гэта быў мой першы поспех. Дым з кухні валіў — ва ўсіх залах чхалі.

### Смажаніна па-наску

Госць шынка маладому афіцыянту, што прынёс яму недасмажанае мяса:

— Але ж я не замаўляў вам біфштэкс па-англійску!

— Ды не, гэта мяса з Камароўкі.

— Біфштэкс па-англійску, калі вас гэтаму не вучылі, — гэта значыць з крывёю, — падказвае госць маладзёну.

— А можа гэта кухар палец сабе парэзаў.

### Кампот ад мухаў

Бывалец шынка скардзіцца афіцыянту:

— Не ўспела як след пацяплець, а ў вас ужо дакучаюць мухі.

— Зараз я прынясу кампот, то яны паляцяць.

### Шчырая размова

У шынку сустрэліся сябры:

— Здароў! Як справы?

— Здароў. Нічога. Газуем! А ў цябе?

— Ды так сабе — хімічым.

### Рыбацкі поспех

Госць шынка сябру:

— Ці праўда, што табе пашэнціла?

— Так. Злавіў вялізазнага карася.

*Пародыі*

*Янусь МАЛЕЦ*

## Мой паэт!

*А я — паэт...*
*.................*
*О, вершаскладанне!*
*.................*
*О, да паэзіі любоў!*
*.................*
*Пішу —*
*Пра што хачу.*
*.................*
*Мяне падхоплівала і насіла*
*Вершаскладання паганская сіла.*
*.................*
*Словы — дровы*
*.................*
*Мне мала слоў — мне мала дроў...*

**Людка Сільнова.**

Ты талент, Людка,
не маню!
Прыгожых столькі слоў...
А я прынёс крыху агню
Да наламаных дроў.
І абвяшчаю на ўвесь свет:
Я — парадыст, ты — мой паэт!
Ты жыць мне, Людка, памагай:
Давай, давай —
Вершаскладай!

*Радамір АНДРЫЧ*

## Досціп

Неяк паэту, у звыклым бяссоні, закарцела дужа
хоць раз чыстым сваім голасам абвясціць
раніцу, святла надыход.
А напярэдадні якраз дах рамантавалі ў суседнім доме
і лесвіцу, прыслоненую, пакінулі.
Такія нагоды не прамінаюць.
Паэт выскачыў з жытла свайго халасцяцкага,
раз-два-тры... — на самы страпок узлез,
развёў рукі, як мага глыбей удыхнуў
і пракукарэкаў.
— Што тут за певень, ды яшчэ ў такую пару,
выспацца не дае! — раз'юшыся абуджаны
пяцідзесяцігадовы работнік санітарна-гігіенічнай службы.
Ён, не доўга думаючы, у руку нож кухонны,
вылятае, глядзіць на дах крыважэрна...
А там стаіць незнаёмы
ускудлачаны чалавек —
захоплена раскінуў рукі,
набірае поўныя грудзі паветра
і шчасліва кукарэкае.

**З сербска-харвацкай мовы пераклаў Іван ЧАРОТА.**

*Станіслаў ЕЖЫ ЛЕЦ*

## Непрычасаныя думкі

Чараўніцы на працэсах прызнаваліся ў зносінах з д'яблам. Як можна было да таго змусіць, бо ж д'ябла няма! Але голас розуму нам падказвае: «Няпраўда, няпраўда, няпраўда!» Д'ябал існуе, ён уласна быў інквізітарам.

Назіраем цікавую з'яву: балбатня як сродак паразумення паміж людзьмі.

Ёсць такія, што ніколі не мелі надзеі, і такія, што сталі яе губляць.

Непісьменныя вымушаны дыктаваць.

Адны жадалі зразумець тое, у што вераць, другія — паверыць у тое, што разумеюць.

Пасля страты зубоў язык атрымлівае большую свабоду.

Рыба робіцца вінаватай, калі паглынае кручок: чужая ўласнасць!

Няма новых кірункаў, існуе адзін: ад чалавека да чалавека.

Паэт з падазронасцю глядзіць на свае словы: якое з іх аздобіць помнік?

Там, дзе ўсе спяваюць на адну ноту, словы не маюць сэнсу.

Пад кіем нават у бубне прачынаецца Муза.

Колькі салаўёў мусіць прагнуць драпежнік, каб заспяваць?

Постаці з тваіх сноў жаруць з тваёй талеркі.

Кайданы не любяць прыкоўваць увагі.

Калі ідэя бяздомная, яна заўсёды знойдзе прытулак у чалавеку.

Думкі як блохі: скачуць з галавы на галаву, але не ўсіх кусаюць.

**Пераклаў з польскай Уладзімір ПАНАДА.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька — адказны сакратар, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 422

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 3182 паасобнікі.
Падпісана ў друк 15.04.1996 г. у 15 гадзін.